КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 47 (319) ◂ 7 снежня ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



**АНАТОЛЬ КУНЦЭВІЧ**

Стар. 14

**КАЛЯДЫ ПАД ЖЫВЫМІ ЁЛКАМІ**

Новым годам пакуль што асабліва і не пахне. Тым не менш уладальнікі беларускіх аграсядзібаў ды катэджаў пад арэнду ўжо паклапаціліся пра размяшчэнне і забавы гасцей

Стар. 5

**ЗАІРЫЗАЦЫЯ І МАДЭРНІЗАЦЫЯ ЎСЁЙ КРАІНЫ**

За кошт кампаніі «заірызацыі», якая пачалася 40 гадоў таму, Жазэф-Дэзірэ Мабуту трапіў у спіс самых экстравагантных дыктатараў у гісторыі

Стар. 11

**У ПОШУКАХ ЛЕПШАЙ ДОЛІ**

Стар. 15

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ФІЛОСАФ І ПАЛІТЫЧНАЯ МАДЭРНІЗАЦЫЯ**

Нарыс Сяргея Нікалюка з цыклу «Азбука паліталогіі»

▸ **З НАГОДЫ**

# ПРЫГОННАЯ МАДЭРНІЗАЦЫЯ

*Генадзь КЕСНЕР*




**Вышэйшыя беларускія ўлады не стамляюцца здзіўляць разнастайнымі перламі ў выглядзе ўказаў, распараджэнняў, дэкрэтаў, загадаў ды іншых актаў. Тое, што выдаў нядаўна ў Барысаве кіраўнік дзяржавы, выклікае, мякка кажучы, здзіўленне.**

Аляксандр Лукашэнка, які наведаў Адкрытае акцыянернае таварыства «Барысаўдрэў», запатрабаваў з 1 снежня ўвесці забарону на звальненні супрацоўнікаў дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў канцэрну «Беллеспаперпрам» да канца іх мадэрнізацыі. Правадыр нават загадаў тэрмінова падрыхтаваць праект адпаведнага дакумента. «Падрыхтуйце дэкрэт. Да завяршэння мадэрнізацыі і рэканструкцыі забараняецца звальненне работнікаў. Работнік не можа звольніцца з гэтага прадпрыемства без дазволу кіраўніка, — у звыклай катэгарычнай форме заявіў Лукашэнка. — Не адпусцілі — павінен працаваць. За парушэнне — на прымусовыя работы».

Некаторыя эксперты ўжо назвалі гэткія захады беларускага кіраўніцтва вяртаннем у рабства. «Гэта вяртанне да рабаўладальніцкага ладу, — адзначае былы міністр працы Беларусі Аляксандр Сасноў. — Такое рашэнне выклікана цяжкасцямі, якія Лукашэнка не можа вырашыць у рамках закону. Таму ён і загадвае падрыхтаваць дэкрэт, які фактычна плюе на закон, а ўсе астатнія дзяржаўныя органы, якія павінны абараняць закон, будуць сядзець і маўчаць. Што да саміх шараговых рабочых, то яны мусяць плюнуць на ўсё і з'язджаць з гэтай краіны, кінуўшы працоўныя кніжкі, — гэты перажытак савецкіх часоў».

Ні для каго не сакрэт, што працоўныя людзі, не кажучы ўжо пра навукоўцаў, пра таленавітую моладзь, і так ужо валам валяць за межы Сінявокай у пошуках лепшае долі. Заробкі нават у нашых не самых багатых суседзяў на тых жа спецыяльнасцях вышэйшыя, чым прапаноўвае тутэйшаму чалавеку «ўнікальная беларуская эканамічная мадэль». Таму і ўзнікае ў дзяржавы жаданне любым чынам прывязаць рабочага да свайго працоўнага месца, калі нават дзеля гэтага даводзіцца ісці на прамое парушэнне Асноўнага закону.

Такога меркавання, прынамсі, прытрымліваецца старшыня Беларускага Хельсінскага камітэт Алег Гулак. «Такія заявы кіраўніка дзяржавы не стасуюцца ні з правамі працоўных, ні з правамі прэзідэнта выдаваць дэкрэты, якія вырашаюць такога кшталту пытанні, што абмяжоўваюць правы чалавека. Увядзенне прыгоннага права не можа быць апраўдана ніякімі мадэрнізацыямі ці рэканструкцыямі», — упэўнены праваабаронца.

Калісьці за савецкімі часамі было ўведзена сапраўднае прыгоннае права для сялян, якім нават не выдавалі пашпартоў, каб яны не маглі пакінуць свае вёскі, свае абрыдлыя калгасы з саўгасамі, дзе людзі былі змушаныя працаваць не за рэальныя грошы, няхай і мізэрныя, а за так званыя працадні. Цяпер, калі ў краіне бракуе сродкаў, каб забяспечыць працоўнаму люду больш-менш годнае існаванне, прыгонныя метады спрабуюць скарыстаць і дзеючыя ўлады, гвалтам прывязваючы беларусаў да месца працы. Цяжка ўявіць, што такія захады робяцца ў XXI стагоддзі!

Кіраўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька лічыць, што такія дзеянні ўладаў цалкам упісваюцца ў айчынную сістэму каардынат. «Бо спачатку Аляксандр Лукашэнка фактычна і юрыдычна забараніў мяняць месца працы чалавеку, які выконвае функцыі прэзідэнта Беларусі. Прэцэдэнт створаны, дык чаму яго не распаўсюдзіць на асобныя катэгорыя працоўных? А з пункту гледжання заканадаўства, як беларускага, так і міжнароднага, гэта можа быць скандал агульнаеўрапейскага маштабу з верагоднымі эканамічнымі санкцыямі не на словах, а на справе», — мяркуе палітык.

Дарэчы, што да «мадэрнізацыі і рэканструкцыі», то добра вядома, колькі гэта можа працягвацца. Як на асобных прадпрыемствах, гэтак і ў краіне ў цэлым. У сістэме, дзе дагэтуль выкарыстоўваецца метад «закату сонца ўручную», імклівых зменаў чакаць не даводзіцца. А працаваць, забяспечваць рост ВУП, выконваць рашэнні «Усебеларускага народнага сходу» і прагнозныя паказчыкі камусьці трэба. Вось і спрабуюць улады на чале з першым і нязменным гарантам вылузвацца, як толькі можна. Няхай і такім сумнеўным чынам.

Цяжка сказаць, наколькі «ўзрадаваныя» такой ініцыятывай галоўнага чыноўніка будуць людзі, якія працуюць у сістэме прадпрыемстваў канцэрну «Беллеспаперпрам». І як яны ўспрымуць свой новы статус. Але можна з вялікай імавернасцю меркаваць, што на пратэсты «новыя прыгонныя» не пойдуць. Адвучылі іх за васямнаццаць гадоў адстойваць свае правы, адвучылі думаць і ацэньваць учынкі і загады начальства.

А ўвогуле, у Беларусі, як той казаў, «то панос, то залатуха». То ўводзяць кантрактную сістэму, у адпаведнасці з якой любы працаўнік можа вылецець з працы нават без тлумачэння прычынаў па завяршэнні кантракту, то ўказамі галоўнага чыноўніка намёртва прывязваюць рабочага да станка ці чагосьці іншага. Каб не збег. Вось яна, свабода, вось яны, правы чалавека па-беларуску! «У нас не выконваюцца многія законы, і калі гэты дэкрэт у выпадку яго прыняцця не будзе выконвацца, гэта будзе адзіны выпадак, калі я гатовы падтрымаць невыкананне», — рэзюмуе старшыня БХК Алег Гулак.

Калі ж забарона на звальненні пачне дзейнічаць, то, па словах праваабаронцы, змагацца з гэтым у беларускіх варунках будзе вельмі складана.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГОМЕЛЬ. ЗА ЗАХАВАННЕ СПАДЧЫНЫ

У Гомелі актывісты моладзевай краязнаўчай грамадскай арганізацыі «Талака», гарадской арганізацыі ТБМ, а таксама іншыя ініцыятывы і неабыякавыя грамадзяне збіраюць подпісы пад зваротам да ўладаў за захаванне ўнікальнай драўлянай забудовы, якая зараз руйнуецца ў цэнтры горада.

Таксама навуковы супрацоўнік філіялу Веткаўскага музею народнай творчасці Андрэй Скідан і група грамадзян падрыхтавалі прапанову да старшыні Гомельскага гарвыканкаму Пятра Кірычэнкі. У лісце да старшыні гарвыканкаму гаворыцца, што ў гістарычным цэнтры Гомеля, па вуліцах Валатаўскай і Парыжскай Камуны, размяшчаецца ўнікальная драўляная забудова мяшчанскага ўзору XIX — пачатку XX стагоддзя, вартая захавання і надання ёй статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці. Але ў адпаведнасці з генпланам большасць драўляных будынкаў ідзе пад знос.

«У сувязі з канфліктнай сітуацыяй вакол дадзенага пытання заклікаем неадкладна правесці адкрытае грамадскае абмеркаванне праблемы прадстаўнікамі гарвыканкама і грамадскасці. На гэтую сустрэчу мы бачым неабходнасць запрасіць усе зацікаўленыя бакі, сярод якіх прадстаўнікі музея гісторыі Гомеля, філіяла Веткаўскага музея народнай творчасці, грамадскіх аб'яднанняў «Талака» і ТБМ, спецыялісты, навукоўцы, краязнаўцы, жыхары вуліц Валатаўская і Карла Маркса», — напісана ў звароце.

Пад лістом падпісаліся актывісты, навукоўцы, даследчыкі, журналісты.

### БРЭСТ. ЗВАРОТ ДА ЧЫНОЎНІКАЎ

Жыхары дома №32 па вуліцы Набярэжнай у Брэсце, якія змагаюцца супраць незаконнага, на іх погляд, будаўніцтва прыватнай аптэкі ў міжкалоннай прасторы гэтага 12-павярховага дома, знайшлі новы спосаб, каб прыцягнуць увагу да сваёй праблемы.

У звароце, які пачынаецца са словаў «Чыноўнікі Рэспублікі Беларусь!», яго падпісанты ўжо не пералічваюць законы, якія парушаліся падчас прадастаўлення ўчастка пад будаўніцтва аптэкі, а наўпрост звяртаюць увагу на бясспраўнае становішча грамадзян, калі гаворка ідзе пра інтарэсы ўладаў.

Гэты зварот накіраваны ва ўсе дзяржаўныя ўстановы, якія былі ўпаўнаважаныя спыніць незаконнае будаўніцтва аптэкі, у тым ліку — да прэзідэнта, у Генеральную пракуратуру, Камітэт дзяржаўнага кантролю, Следчы камітэт і іншыя арганізацыі. Адначасова жыхары дома №32 на Набярэжнай чакаюць разгляду сваёй скаргі ў Вярхоўным судзе, бо суды раённага і абласнога ўзроўню ў Брэсце прынялі рашэнні не на іх карысць.

### ГРОДЗЕНШЧЫНА. НОВЫЯ ПЕРАСЛЕДЫ

Уладам Гродзеншчыны не дае спакою святкаванне Дня памяці паўстанцаў 1863 года, якое адбылося ў Свіслацкім раёне 27 кастрычніка.

Супрацоўнікі міліцыі працягваюць шукаць удзельнікаў урачыстасці, пераследуючы іх у адміністратыўным парадку. 4 снежня з адміністратыўнымі пратаколамі міліцыянты азнаёмілі старшыню Гродзенскай арганізацыі Партыі БНФ Вадзіма Саранчукова і сябра рады гарадской структуры ПБНФ Ірыну Данілоўскую. Напэўна, абодвух неўзабаве чакае выклік у Свіслацкі раённы суд.

«Наступны 2013 год грамадскасць збіраецца адзначаць пад эгідай 150-х угодкаў з часу нацыянальна-вызвольнага паўстання. Відаць, улады прэвентыўна хочуць перашкодзіць гэтаму святкаванню. Тое, што адбываецца зараз вакол Дня памяці паўстанцаў у Свіслачы, з юрыдычнага гледзішча проста абсурд — па логіцы ўладаў людзі не маюць права знаходзіцца ў сваім горадзе, не маюць права прыехаць і ўскласці кветкі да помнікаў. Гэта абсалютна незаконная дыскрымінацыя грамадзян. З палітычнага ж і маральнага боку гледжання сітуацыя выглядае яшчэ горш — у 1863 годзе беларускія землі былі пад акупацыяй чужой дзяржавы, зараз жа маем суверэнную Рэспубліку Беларусь, у якой пераследуецца найперш тытульная нацыя — беларусы», — лічыць праваабаронца Віктар Сазонаў.

**Матэрыялы падрыхтаваныя паводле сайта spring96.org**

## TERRA INCOGNITA Ў ЦЭНТРЫ ЕЎРОПЫ

**Прэзентацыя брашуры «Беларусь: Terra Incognita ў цэнтры Еўропы ці тэрыторыя еўразійскага кампрамісу» прайшла 5 снежня ў Мінску.**

Выпуск брашуры звязаны з падпісаннем 5 снежня 1994 года Беларуссю, Расіяй, Англіяй і ЗША мемарандума аб гарантыях бяспекі ў сувязі з далучэннем Беларусі да Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі.

Яе ўкладальнікамі з'яўляюцца праваабаронца Алег Волчак, юрысты Ігар Рынкевіч і Юрый Ваўчок. Па іх меркаванні, мемарандум сёння можа стаць дакументам, які адкрые новую Беларусь, здольную стаць палітычным, эканамічным і культурным Домам еўразійскага супрацоўніцтва і кампрамісу.

«Цяпер нават улады пачалі разумець, што краіне неабходная мадэрнізацыя. Калі мадэрнізацыі не будзе і Беларусь не зможа ўбудавацца ў агульнасусветныя тэндэнцыі развіцця, ёй не пазбегнуць эканамічнага краху», — лічыць Юры Ваўчок.

Укладальнікі брашуры прапануюць краінам Еўропы і Азіі інтэгравацца ў еўразійскую супольнасць, у якой тэрыторыя Беларусі можа стаць цэнтральнай пляцоўкай. Паводле іх меркавання, Еўразіі сёння «неабходны новы геапалітычны кантэкст, і ў Беларусі непазбежна паўстануць прапановы па новым фармаце еўразійскага супрацоўніцтва, стварэнні еўразійскіх рэгіянальных арганізацый, закліканых забяспечыць мір, бяспеку і супрацоўніцтва ў Еўразіі». У прыватнасці, у Мінску мог бы размясціцца адзін з інстытутаў АБСЕ, напрыклад, Вярхоўная камісія па справах нацыянальных меншасцяў.

**Паводле БелаПАН**

СУСТРЭЧА

## ПРЫНЦЫПОВАЕ ПЫТАННЕ ДЛЯ ЕС

**Вызваленне палітвязняў з'яўляецца перадумовай пачатку дыялогу Еўрапейскага саюза з афіцыйным Мінскам.**

Пра гэта еўракамісар па пытаннях пашырэння і палітыцы добрасуседства Штэфан Фюле ў чарговы раз заявіў падчас сустрэчы з намеснікам старшыні ПЦ «Вясна» Валянцінам Стэфановічам і старшынёй Беларускай асацыяцыі журналістаў Жаннай Літвіной, якая праходзіла 5 снежня ў Брусэлі.

У межах візіту беларускіх праваабаронцаў у Брусэль, арганізавана Міжнароднай федэрацыяй за правы чалавека (FIDH), адбудзецца шэраг сустрэч з прадстаўнікамі Еўрапейскага Парламенту і Еўрапейскай Камісіі.

Як распавёў Валянцін Стэфановіч, падчас сённяшняй сустрэчы з еўракамісарам Фюле адбылася дыскусія па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. У першую чаргу, па праблеме палітычных зняволеных і пераследу прадстаўнікоў незалежных сродкаў масавай інфармацыі. Праваабаронца падкрэсліў, што еўракамісар запэўніў, што вызваленне палітвязняў ЕС разглядае як перадумову пачатку дыялогу з афіцыйным Мінскам. «Спадар Фюле выказаў падтрымку ўсім праваабаронцам Беларусі, а таксама праваабарончаму цэнтру «Вясна», які, паводле яго слоў, працягвае працу ў такіх складаных умовах, асабіста Алесю Бяляцкаму і ўсім палітвязням», — дадаў Стэфановіч.

Пасля сустрэчы з Фюле Валянцін Стэфановіч і Жанна Літвіна сустрэліся з журналістамі вядучых СМІ, у тым ліку тэлеканала «Euronews» і Радыё «Свабода». На чарзе — сустрэча з прадстаўнікамі Еўрапарламента.

**spring96.org**

ДЫСКУСІЯ

## НІХТО НЕ СКАЖА, ШТО РАБІЦЬ

**«Як прыхільнікаў пераменаў зрабіць іх актыўнымі ўдзельнікамі?» — круглы стол пад такой назвай адбыўся 5 снежня ў Мінску.**

Ініцыятарамі яго правядзення выступілі Рух «За Свабоду» і грамадзянская кампанія «Гавары праўду». Імпрэза з удзелам палітыкаў, экспертаў і журналістаў адбылася 5 снежня ў Мінску.

Заснавальнік НІСЭПД прафесар Алег Манаеў прадэманстраваў прэзентацыю сваіх апошніх даследаванняў, аб'яднаных назвай «Беларусь сёння: расколатае грамадства», і пракаментаваў іх.

Паводле сацыёлага, эканамічны стан і чаканні людзей негатыўныя. 52% лічаць, што Лукашэнка не разумее іх праблемы, 53% лічаць, што яны не абаронены законам (гэта ў паўтара разы болей, чым тых, хто так не лічыць). Амаль палова беларусаў хоча з'ехаць з краіны. Разам з тым, расце колькасць беларусаў, якія лічаць, што лепей добрая сістэма, чым моцны лідар (паказнік дасягнуў 49%), каля 40% падтрымліваюць дыялог з Еўропай аб мадэрнізацыі Беларусі. Але гэта істотна не адбіваецца на росце падтрымкі апазіцыі.

Скептычнае стаўленне да апазіцыі Алег Манаеў патлумачыў тым, што, на думку людзей, яна не зможа нічога зрабіць (па розных прычынах). Для людзей вельмі важныя прыклады паспяховасці яе дзейнасці. Як прабіць замкнёнае кола — пытанне.

На думку Уладзіміра Дунаева, на жаль, ёсць стойкае дыстанцаванне ад традыцыйных палітычных постацяў. Можна паспрабаваць кансалідаваць грамадства лакальна, вакол мясцовых праблемаў.

Прысутныя адзначылі высокі ўзровень працоўнай і адукацыйнай міграцыі. Па словах Уладзіміра Дунаева, «моладзь бяжыць з краіны».

Паводле Дзяніса Мельянцова, рэжым паступова трансфармуецца з папулістычнага да паліцэйскай дзяржавы, якая ў меншай ступені залежыць ад грамадскай думкі.

Дык а што рабіць палітыкам? Манаеў раіць перастаць думаць, што нешта зменіцца, нешта нам падкажа, што рабіць. Зараз ёсць болевыя кропкі: крыўда, эканамічны крызіс, адукацыя… Трэба ціснуць на гэтыя кропкі, і, калі настане гістарычны момант, нешта адбудзецца.

Трэба шукаць магчымасці супрацы таксама з наменклатурай (апеляваць не толькі да звычайных людзей), выказаў меркаванне Дзяніс Мельянцоў. Рэгіянальныя групоўкі ў асяродку наменклатуры могуць узнікнуць, калі распачнецца прыватызацыя з іх удзелам. Таксама ёсць пэўная перспектыва ў тым, што ва ўмовах змяншэння транфертаў рэгіянальныя чыноўнікі адкалоцца да цэнтра. Варта ўвесь час падтрымліваць сувязь з наменклатурай, каб у патрэбны момант яна ведала, да каго хіліцца, дадае Алег Манаеў.

**Паводле інфармацыі Руху «За Свабоду»**

ІНІЦЫЯТЫВА

## КУРАПАТЫ ПАД КАНТРОЛЕМ

**Марат ГАРАВЫ**

**Любыя праекты мемарыялізацыі Курапатаў павінны прымацца з улікам грамадскага абмеркавання.**

Да такой высновы прыйшлі 5 снежня ў Мінску сябры грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу «Курапаты».

Культуролаг Вацлаў Арэшка паведаміў, што рэдакцыя газеты «Наша ніва» на свой ліст кіраўніцтву СТАА «БелРэстІнвест» — заказчыку забаўляльнага комплексу каля Курапатаў — атрымала адказ, у якім паведамляецца, што забудоўшчык падрыхтаваў праект мемарыялізацыі Курапатаў і накіраваў яго ў Міністэрства культуры.

У 2002 годзе грамадскія ініцыятывы «За ўратаванне мемарыяла Курапаты» і «Моладзь у абарону Курапатаў» распрацавалі «Канцэпцыю мемарыяла ахвяраў палітычных рэпрэсій «Курапаты», якую зацвердзілі 14 грамадскіх аб'яднанняў.

Гэтая канцэпцыя не страціла актуальнасць. Таму ў сваёй працы грамадская ініцыятыва павінна зыходзіць з гэтай канцэпцыі, і асаблівa палажэння пра тое, што «любыя прапановы і рашэнні» па мемарыялізацыі Курапатаў «мусяць прымацца з улікам публічнага абмеркавання».

Як распавяла каардынатар ініцыятывы Ганна Шапуцька, на 12 снежня запланавана сустрэча прадстаўнікоў ініцыятывы з начальнікам упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Ігарам Чарняўскім. Падчас гэтай сустрэчы неабходна абмеркаваць шэраг праблем па сітуацыі вакол Курапатаў у сувязі з рэалізацыяй праекту «Прыдарожны сервіс на 51-м кіламетры МКАД» без дазволу Міністэрства культуры.

Вырашана звярнуцца да грамадзянскай ініцыятывы «Рада беларускай інтэлігенцыі» дзеля выпрацоўкі грамадскага эскізнага праекта забудовы тэрыторыі вакол Курапатаў тымі аб'ектамі, каторыя найбольш адпавядаюць сутнасці народнага мемарыялу, а таксама будуць спрыяць яго папулярызацыі і захаванню.

Удзельнікі пасяджэння падтрымалі прапанову былога вязня ГУЛАГу Уладзіміра Рамаоўскага пра арганізацыю талок у Курапатах па санітарнай ачыстцы лясного масіву. Паводле ягоных слоў, трэба зыходзіць з таго, што Курапаты, як помнік гісторыі міжнароднага значэння знаходзіцца пад аховай дзяржавы, і імкнуцца праводзіць такія масавыя мерапрыемствы ў супрацоўніцтве з дзяржаўнымі структурамі.

На думку актывіста аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Валеры Чарнаморцавай, наспела неабходнасць усталявання ва ўрочышчы мемарыяльнага знаку ў гонар больш за 100 прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, расстраляных у ноч з 28 на 29 кастрычніка 1937 года ў Мінску ва ўнутранай турме НКУС БССР (у так званай «Амерыканцы»).

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ПАДАРУНАК НА КАЛЯДЫ

Сяргей САЛАЎЁЎ




**Грамадзянская супольнасць у чарговы раз перамагла ўлады. Гаспадарчы суд Мінска адмовіўся ад высялення пратэстанцкай царквы «Новае жыццё» з яе будынку. Перамога няпоўная — па-ранейшаму не вызначана ўласнасць зямлі і будынка, але вернікі ўсё ж не выкінутыя на вуліцу.**

Каля сямі гадоў гарадскія ўлады спрабавалі выселіць царкву «Новае жыццё». У 2005 годзе рэлігійная абшчына была пазбаўлена права карыстання зямельным участкам, выдзеленым ёй раней у бестэрміновае карыстанне. Каб прыцягнуць увагу грамадскасці да праблем царквы «Новае жыццё», у кастрычніку 2006 года вернікі правялі пост-галадоўку, які доўжыўся каля месяца. Галадаючыя змянялі адзін аднаго, пастаянна знаходзячыся ў будынку царквы. Акцыя была спынена пасля таго, як уладам давялося адступіць — сітуацыя вакол царквы атрымала шырокі міжнародны рэзананс. У абарону «Новага жыцця» актыўна выступілі прадстаўнікі дэмакратычных сіл, краіны ЕС, замежныя палітыкі, святары, рэлігійныя аб'яднанні.

Тым не менш у 2009 годзе ўлады пазбавілі абшчыну права ўласнасці на будынак царквы, а ў ліпені 2010-га гаспадарчы суд Мінска наклаў на абшчыну санкцыі на 258 мільёнаў рублёў за «забруджванне навакольнага асяроддзя». Вернікі палічылі дзеянні ўладаў незаконнымі і вырашылі не выплачваць гэтую суму. Апошнія паўтара гады, прыкладна з мая 2011-га, улады не распачыналі ніякіх дзеянняў у дачыненні да царквы.

Сёлета аб прымусовым высяленні, прызначаным на 5 снежня, абшчыне было паведамлена 27 лістапада, а на наступны дзень Савет царквы прыняў рашэнне пачаць кругласутачную малітву за захаванне свайго будынка. Вернікі маліліся 24 гадзіны, змяняючы адзін аднаго. Яны таксама звярнуліся па дапамогу да старшыні Мінгарвыканкама Мікалая Ладуцькі, у Савет міністраў і Адміністрацыю прэзідэнта. Абшчына прасіла ўлады адмяніць рашэнне Мінгарвыканкама ад 2005 года аб адабранні ў царквы зямлі і будынка, адзначаючы, што ў такім выпадку аўтаматычна будуць адменены і ўсе наступныя судовыя рашэнні па «Новым жыцці».

І менавіта падчас малітвы 4 снежня ў царкву патэлефанавала суддзя гаспадарчага суда Мінска Вольга Шчарбовіч. Яна паведаміла, што судовая вытворчасць у дачыненні да «Новага жыцця» спынена па просьбе ЖРЭУ Маскоўскага раёна горада, на тэрыторыі якога размешчана царква. Адразу ж пасля званка Луканін выехаў у суд і атрымаў на рукі адпаведныя дакументы.

Чаму так адбылося? Найперш, дзякуючы грамадскасці. Рэзананс вакол царквы быў не меншы, чым у пост-галадоўку. Улада, як кажуць сацыёлагі, у нас усё ж электаральная — яна прыслухваецца да грамадства, калі трэба. І калі грамадства ўзрушваецца, то ўлада ідзе назад.

Да таго ж, адна справа — разганяць нешматлікія пікеты апазіцыі, а іншая — уступіць у канфлікт з царквой. Пратэстанты — хоць людзі і мірныя, але настойлівыя. І штурмаваць АМАПам будынак царквы сёння — гэта атрымаць як мінімум грамадзянскае непадпарадкаванне вернікаў заўтра. Калі нехта скажа: «Ну, што там, пратэстанты! Гэта ж не праваслаўныя!», той гранічна памыліцца.

Ва ўсіх абласных цэнтрах, акрамя Віцебска, пратэстанцкія цэрквы займаюць лідарства сярод прыходаў. У Магілёве — 55,9% прыходаў пратэстанцкія, у Мінску — 51,6%, у Брэсце — 47,1%, у Гродна — 44,7%, у Гомелі — 43,6%, у Віцебску — 31,9%. Згодна дадзеным упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў, Беларуская праваслаўная царква налічвае сёння 1567 рэлігійных абшчын, а пратэстанты — у агульнай колькасці 1025 рэлігійных абшчын. То бок, уплыў пратэстантаў як мінімум супастаўляльны з праваслаўнымі.

Ну і, канешне ж, адрозніваецца і якасны стан вернікаў цэркваў. Калі праваслаўныя — усё больш людзі сталага веку, то пратэстанты збольшага маладыя, паспяховыя і ўпэўненыя ў сваёй моцы людзі. Да таго ж гэта ўпэўненасць пацвярджаецца верай у Божую дапамогу... І АМАП тут не дапаможа.

Так што не варта чапаць вернікаў. Улада гэта нарэшце зразумела, але не да канца. Паглядзім, ці вернуць царкве яе ўласнасць.

Штурм будынка «Новага жыцця» быў бы забаўным яшчэ з адной прычыны. Напярэдадні — Новы год, і ўжо зараз у народа пад рукамі шмат выбухоўкі. З 1 снежня 2012 года па 9 студзеня 2013 года ў Мінску нават праводзіцца комплекс прафілактычных мерапрыемстваў па выяўленні і спыненні фактаў незаконнай рэалізацыі піратэхнікі, а таксама па выключэнні фактаў яе незаконнага выкарыстання гараджанамі і гасцямі сталіцы. Так што шоў было б яшчэ тое.

Дарэчы, пра піратэхніку на Новы год. У навагоднія святы сталічная міліцыя будзе працаваць ва ўзмоцненым рэжыме, паведаміў начальнік упраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі ГУУС Мінгарвыканкама Юрый Сарокін

«Усе аб'екты правядзення масавых мерапрыемстваў будуць ачэплены, допуск на іх будзе праводзіцца праз пэўны надгляд. Людзі з забароненымі прадметамі туды дапускацца не будуць», — паведаміў Сарокін.

Паводле яго слоў, у пераднавагодні час традыцыйна павялічваецца колькасць правапарушэнняў, звязаных з прымяненнем петард, выкарыстанне якіх у грамадскіх месцах кваліфікуецца як дробнае хуліганства. «У Мінску афіцыйна дазволены продаж піратэхнічных вырабаў у спецыялізаваных крамах, аднак у грамадскім транспарце іх перавозіць нельга», — растлумачыў Сарокін.

Калі купіў петарду, нават у дазволенай краме — чапай дадому пешшу. Так, ці што? Дзеці навагодніх хлапушак не дачакаюцца?

І ці будзе Новы год увогуле? Не, гэтае пытанне звязанае не з чаканым многімі канцом свету, а з надзвычай цёплымі зімамі ў Беларусі. Сіноптыкі кажуць, што будзе. Цяперашняя зіма чакаецца характэрнай для Беларусі, паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтру Дзмітрый Рабаў. Паводле яго слоў, «будуць і маразы мінус 20°С, але сухіх халодных зім не чакаецца».

Як расказаў Рабаў, у цэлым кліматычная норма тэмпературы паветра ў Беларусі за зіму складае мінус 5,5°С. Марозныя перыяды ўсталёўваюцца галоўным чынам пры антыцыклапальным характары надвор'я. У сярэднім на працягу зімы назіраецца ад 5–8 на паўднёвым захадзе да 14–15 на поўначы і ўсходзе вельмі марозных дзён, у якія тэмпература паветра ў начныя гадзіны апускаецца да мінус 20°С і ніжэй. Звычайна на працягу зімы бывае некалькі такіх халодных перыядаў сярэдняй працягласцю кожнага прыкладна два дні. У сярэднім адзін раз на 25 гадоў можна чакаць пахаладання працягласцю 10 дзён і больш.

Так што рыхтуемся да Новага году.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### СЯРГЕЙ БУДКІН



Ідэйны арганізатар інтэрнэт-рэсурсу пра беларускую музыку «Тузін Гітоў» Сяргей Будкін у супрацы з кампаніяй «Будзьма беларусамі!» запусціў новы праект «Тузін. Немаўля».

У новым будынку Падляскай оперы і філармоніі ў польскім Беластоку адбылася міжнародная прэм'ера ўнікальнага праекту «Тузін. Немаўля».

Праект па злучэнні класікі беларускай кінематаграфіі з музыкай сучасных выканаўцаў быў задуманы інтэрнэт-парталам Tuzin.fm. Праца над ім вялася некалькі гадоў, і першы вынік быў прадэманстраваны на адкрыцці новага будынку Падляскай оперы і філармоніі 19 і 20 кастрычніка. Для міжнароднай прэм'еры былі абраныя дзве стужкі — «Кастусь Каліноўскі» 1927 года вытворчасці і «У агні народжаная» 1929 года, да якіх узяліся напісаць музыку, адпаведна, Сяргей Пукст і гурт «Re1ikt».

«У агні народжаная» — шэдэўр авангарднага кіно, першы фільм славутага рэжысёра Уладзімера Корш-Сабліна. Музыкі з гурта «Re1ikt» называюць гэтую стужку «сапраўдным фільмам жахаў». «Нам сапраўды было вусцішна падчас прагляду, бо там вельмі шмат момантаў, якія не могуць пакінуць абыякавым. І сёння гэтая праца выклікае, пэўна, адваротныя эмоцыі, чым пры канцы 20-х гадоў. Сваё ўспрыняцце тых падзеяў мы і спрабавалі перадаць праз сваю музыку», — кажа адзін са стваральнікаў арыгінальнага саўндтрэку да фільма Аляксандр Дземідзенка.

### ТАЦЦЯНА ШАРАКОВА



Нацыянальнае антыдопінгавае агенцтва Беларусі (НАДА) прапануе абмежавацца вымовай велагоншчыцы Таццяне Шараковай, якая будзе пазбаўленая двух медалёў чэмпіянату Еўропы па велатрэку 2012 года пасля выяўлення ў яе допінг-пробе забароненага прэпарата.

Допінг-тэст, праведзены 21 кастрычніка падчас чэмпіянату Еўропы па велатрэку ў літоўскім Панявежы, выявіў у арганізме Таццяны Шараковай прэпарат туамінагептан, які, паводле класіфікацыі Сусветнага антыдопінгавага кодэкса, адносіцца да групы забароненых стымулятараў.

Пасля атрымання навіны аб выяўленні туамінагептана Таццяна Шаракова нават не стала патрабаваць адкрыцця пробы «В». З тлумачэнняў беларускай велагоншчыцы вынікае, што забароненае рэчыва апынулася ў яе арганізме па няведанні і без злога намеру, з прычыны выкарыстання назальнага спрэю, калі ў спартсменкі быў насмарк. А ў склад лекаў уваходзіць акурат забаронены для спартоўцаў прэпарат. Прычым, па правілах Сусветнага антыдопінгавага кодэкса, яго ўжыванне забаронена толькі падчас спаборніцтваў.

На пасяджэнні дысцыплінарнай камісіі НАДА было прынята рашэнне рэкамендаваць Міжнароднаму саюзу веласіпедыстаў і Сусветнаму антыдопінгаваму агенцтву (ВАДА) абмежавацца вымовай для Таццяны Шараковай. Тым не менш, нельга выключаць, што спартсменка можа быць падвергнутая дыскваліфікацыі. Таксама будзе рэкамендацыя вынесці пакаранне лекару нацыянальнай каманды Беларусі па веласпорце, які дапусціў прыняцце спартсменкай лекавага прэпарата, што змяшчае рэчыва, забароненае ВАДА.

### СЯРГЕЙ ДАРАФЕЕЎ



Ва Украіне назвалі лепшыя тэлевізійныя праекты і вядучых, якія перамаглі ў XII прэміі «Тэлетрыумф–2012».

У намінацыях былі прадстаўлены тэлесерыялы, тэлеперадачы, іх вядучыя, акцёры, ток-шоў, а таксама людзі, якія заўсёды застаюцца за кадрам, але тым не менш прыкладаюць нямала намаганняў, каб тэлепрадукт выйшаў якасным, — рэжысёры, прадзюсеры і дызайнеры.

Сяргей Дарафееў з яго праграмай «Партрэты з Сяргеем Дарафеевым» на 5-м канале стаў лепшым інтэрв'юерам.

Журналіст адзначыў, што парады і заўвагі беларускіх тэлегледачоў дапамаглі яму дамагчыся поспеху ва Украіне.

«Статуэткі і рэйтынгі — гэта атрыбуты публічнасці. Па-мужчынску, для задавальнення сваіх амбіцый, яны, відома, важныя. Але значна важней атрыманыя веды, вопыт, меркаванне гледачоў і калегаў. За свае ўкраінскія поспехі хачу падзякаваць і беларускім гледачам, якія сваімі парадамі і заўвагамі дапамагалі мне прафесійна расці», — цытуе Дарафеева «Комсомольская правда в Белоруссии».

Сяргей Дарафееў — беларускі журналіст. Працаваў на ОНТ, вёў токшоў «Выбар». Быў звольнены пасля 19 снежня 2010 года, калі ў ноч пасля выбараў задаў у прамым эфіры кіраўніцы ЦВК Лідзіі Ярмошынай некалькі непрыемных пытанняў.

▸ ГЕАПАЛІТЫКА

# У СНД НЯМА ПРАСТОРЫ ДЛЯ МАНЕЎРА

Вольга ХВОІН

**Кіраўнік Беларусі наведаў з рабочым візітам Туркменістан, дзе ўзяў удзел у пасяджэнні Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД. Па выніках сустрэчы Беларусь афіцыйна абвешчана старшынёй СНД у 2013 годзе.**




На саміце ў Ашхабадзе было разгледжана каля 20 праектаў дакументаў, сярод якіх адзін з асноўных — праект дэкларацыі кіраўнікоў дзяржаў СНД аб далейшым развіцці ўсебаковага супрацоўніцтва. Таксама было падпісана пагадненне аб арганізацыі інтэграванага валютнага рынку з краінамі СНД.

«Намі падпісана пагадненне аб арганізацыі інтэграванага валютнага рынку. Такім чынам, ідзе працэс удасканалення ўзаемадзеяння ў фінансавай сферы», — паведаміў прэс-сакратар прэзідэнта РФ Дзмітрый Пяскоў. Па словах Пяскова, пагадненне істотна спросціць працу банкаў краін СНД.

Гэта дазволіць удзельнікам пагаднення бесперашкодна здзяйсняць абменныя аперацыі на сваёй тэрыторыі і ўзмоцніць пазіцыі рубля на постсавецкай прасторы. Эксперты адзначаюць, што ўмацаванне расійскага рубля ўвязанае з палітычнымі амбіцыямі Крамля па зборы земель постсавецкай прасторы.

Не так даўно кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта РФ Сяргей Іваноў заявіў, што ў перспектыве расійскі рубель можа заняць пазіцыі рэзервовай валюты на тэрыторыі СНД. Гэта значыць, што цэнтрабанкі Садружнасці будуць назапашваць рублёвыя активы ў сваіх міжнародных рэзервах і выкарыстоўваць рубель для міжнародных аперацый.

Таксама кіраўнікі дзяржаў разгледзелі вынікі працы Садружнасці, функцыянаванне Міжпарламенцкай Асамблеі дзяржаў — удзельніц СНД па ўмацаванні інтэграцыйнага ўзаемадзеяння, а таксама шэраг гуманітарных і культурных пытанняў. Акрамя таго, была абмеркавана тэма сумеснага святкавання 70-й гадавіны Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.

Сустрэча ў Ашхабадзе не абышлася без канфліктаў і вострых выказванняў. Так, прэзідэнт Кіргізіі Алмазбек Атамбаеў праігнараваў саміт СНД. Афіцыйныя крыніцы спасылаліся на шчыльны графік палітыка, а таксама на складаную ўнутрыпалітычную сітуацыю ўнутры Кіргізіі. «Эксперты ў Кіргізіі першапачаткова меркавалі, што Атамбаеў можа не паехаць у Ашхабад з-за Беларусі. Бішкек так і не дараваў Мінску адмовы ў выдачы экс-прэзідэнта Курманбека Бакіева і яго малодшага брата Жаныбека. І, мабыць, тым самым плануе заручыцца іх падтрымкай у ціску на Мінск. У наступным годзе Кіргізія мае намер увайсці ў Мытны саюз. Але ўступленне будзе залежаць і ад Беларусі. А Лукашэнка — таксама прэзідэнт. І не выключана, што ў патрэбны момант у яго таксама можа апынуцца занадта шчыльны графік», — паведамляла радыё «Голос России».

На пасяджэнні Савета лідараў краін СНД у вузкім складзе прэзідэнт РФ Уладзімір Пуцін раскрытыкаваў АБСЕ, заявіўшы, што арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе даўно варта спыніць абслугоўваць інтарэсы асобных дзяржаў.

«Не менш важна нарошчваць каардынацыю па актуальных пытаннях дзейнасці АБСЕ. Цяперашні стан спраў у арганізацыі, на жаль, не выклікае аптымізму. АБСЕ даўно час спыніць абслугоўваць інтарэсы асобных краін, засярodзіць сваю ўвагу на аб'яднаўчым парадку», — сказаў расійскі лідар.

У 2013 годзе старшынства ў АБСЕ пяройдзе да Украіны. «Разлічваю, што ў якасці старшыні АБСЕ ў 2013 годзе Украіна будзе займаць менавіта такую пазіцыю», — заявіў Пуцін.

У Ашхабадзе адбыліся двухбаковыя сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з прэзідэнтамі Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедавым і Украіны Віктарам Януковічам. З Уладзімірам Пуціным беларускі кіраўнік персанальных сустрэч не меў.

Дарэчы, у 2013 годзе Украіна будзе старшынстваваць у АБСЕ, Літва возьме старшынства у Еўрасаюзе ў другой палове 2013 года. Ці ёсць нейкая разынка ў адмысловых статусах старшынь трох краін-суседак. Разважае палітолаг Алесь Лагвінец: «Ёсць адрозненне старшынства ў ЕС і СНД. СНД — гэта збольшага клуб,і ён цяпер мала на што ўплывае, трымаецца збольшага на тым, што Расія хоча захаваць прыярытэт на постсавецкай прасторы. І для Беларусі як старшыні СНД будуць вельмі абмежаваныя магчымасці на нешта паўплываць».

Эксперт мяркуе, што высокія статусы краіны ў міжнародных арганізацыях часам можна выкарыстоўваць, каб, напрыклад, палепшыць свой імідж. Але ў выпадку Беларусі «занадта мала прасторы для манеўру, а краіны-сябры СНД маюць свае інтарэсы — хто на Каўказе, хто ў Турцыі».

Што тычыцца будучага старшынства ў Еўрасаюзе Літвы, то гэтая дзяржава будзе вымушаная працаваць у межах агульнай стратэгіі ЕС, хіба што з'явіцца магчымасць больш увагі надаваць праграме «Усходняе партнёрства» ды прыцягнуць увагу да Беларусі. На жаль, на ўзроўні СНД Беларусь не зможа акцэнтаваць на сабе ўвагу.

Перад самітам Усерасійскі цэнтр вывучэння грамадскай думкі правёў апытанне наконт ацэнкі стабільнасці краін СНД. Беларусь і Казахстан у рэйтынгу найбольш стабільных краін СНД лідзіруюць. Самымі стабільнымі і паспяховымі ў СНД апытаныя расіяне лічаць Беларусь (45%), Казахстан (33%), Украіну (17%).

Астатнія краіны з прыкметным адрывам адстаюць у рэйтынгу даверу: Арменія атрымала 5%, Кіргізія і Азербайджан — па 4%, Узбекістан — 3%, Малдова, Туркменія і Таджыкістан — па 2%. Найменш надзейным партнёрам на постсавецкай прасторы расіяне лічаць Грузію з 1%.

Аналагічна расіяне ацэньваюць і кіраўнікоў краін СНД.

▸ ІНТЭРНЭТ

# ТЭХНАЛОГІІ НА СЛУЖБЕ ЦЭНЗУРЫ

Вольга ХВОІН

**«Index on Censorship» падрыхтавала аналітычны даклад аб цэнзуры ў інтэрнэце ў Беларусі.**

«Новыя тэхналогіі, у першую чаргу інтэрнэт, даюць новыя магчымасці для свабоды выказвання ў Беларусі. Пры гэтым яна застаецца краінай з адной з найгоршых сітуацый са свабодай слова ў свеце. Гэта краіна, у якой апазіцыйныя лідары і журналісты зніклі альбо былі забітыя, у якой запалохванне і беспакараны пераслед актывістаў грамадзянскай супольнасці і незалежных журналістаў з'яўляецца нормай. Цяпер варожасць беларускіх уладаў да свабоды слова распаўсюджваецца і на анлайн-сферу», — пішуць аўтары дакумента.

«Працяглы час інтэрнэт-прастора была свабоднай. Але ўлады не пакінулі гэта незаўважаным. Арганізацыя «Index on Censorship» больш увагі надае Беларусі пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года, — адзначыў супрацоўнік арганізацыі «Index on Censorship» па Беларусі і рэгіёне АБСЕ Андрэй Аляксандраў. — У якасці адказу на рост карыстання інтэрнэтам урад Беларусі выкарыстоўвае «праверанныя» метады — тыя ж самыя, што накіраваны на абмежаванне свабоды выказвання ў традыцыйных СМІ: рэпрэсіўнае медыя-заканадаўства, артыкулы Крымінальнага кодэкса аб дыфамацыі, адміністратыўны пераслед актывістаў і журналістаў».

Акрамя «традыцыйных» метадаў цэнзуры ў Беларусі выкарыстоўваюцца і іншыя — фільтраванне кантэнту, тэхналогіі сачэння і блакаванне доступу да незалежных сайтаў, асабліва ў ключавыя моманты важных палітычных кампаній, такіх, напрыклад, як прэзідэнцкія выбары.

Больш за тое, аўтарытарны рэжым Аляксандра Лукашэнкі прымяніве і новыя падыходы, каб задушыць свабоду выказвання ў інтэрнэце. Да іх адносяцца прымяненне новых тэхналогій, такіх як DDoS-атакі, хакерскія напады на незалежныя сайты і маніпуляцыя кантэнтам.

Даклад змяшчае пэўныя рэкамендацыі, прытрымліванне якіх, на думку «Індэкса цэнзуры», дазволіць ураду Беларусі выканаць узятыя на сябе міжнародныя абавязацельствы ў галіне свабоды выказвання і правоў чалавека. Акрамя таго, ёсць рэкамендацыі і міжнародным арганізацыям і структурам, такім, як Еўрапейская Камісія, Еўрапейскі парламент, АБСЕ, Савет Еўропы, а таксама нацыянальным урадам еўрапейскіх краін, якія маюць кантакты з беларускім урадам



альбо іншым чынам уцягнутых у сітуацыю ў Беларусі.

«Індэкс цэнзуры» заклікае ўлады Беларусі спыніць несуразмерныя і залішнія юрыдычныя і неправавыя практыкі, якія падрываюць свабоду выказвання. А таксама правесці неадкладныя рэформы, якія б гарантавалі свабоду слова ў Беларусі. Гэта тычыцца абавязковай працэдуры персанальнай ідэнтыфікацыі карыстальнікаў інтэрнэт-паслуг, уцягвання ў фільтраванне кантэнту прыватных кампаній.

Асобным пунктам ёсць прапановы змяніць заканадаўства ў частцы, што прадугледжвае крымінальную адказнасць за паклёп, абразу асобы, дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь ды паклёп у дачыненні да кіраўніка Беларусі.

«Мне падаецца, сыходзячь у мінулае адносіны да інтэрнэту як да абсалютна аўтаномнай сферы, прававое рэгуляванне якой не патрабуецца. Беларускае заканадаўства ў галіне свабоды выказвання рэпрэсіўнае. Сапраўды, ёсць 6 артыкулаў у Крымінальным кодэксе, датычных да дзейнасці медыя. Усе гэтыя прававыя акты прымяняюцца і да інтэрнэт-карыстальнікаў. Журналіст Андрэй Пачобут — наглядны таму прыклад. Падставай для завядзення другой крымінальнай справы сталі акурат публікацыі ў інтэрнэце», — адзначае віцэ-старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў, юрыст Андрэй Бастунец.

Паводле яго слоў, цяпер у экспертаў «вялікую занепакоенасць выклікае спроба ўладаў уліць старое віно ў новыя мяхі, то бок скарыстацца старымі падыходамі рэгулявання медыя да інтэрнэту».

Разам з тым аўтары аналітычнага дакладу па Беларусі з «Index on Censorship» мяркуюць, што неабходна працягваць дыялог уладаў краіны з грамадзянскай супольнасцю ўнутры Беларусі, а таксама з міжнароднымі нўрадавымі арганізацыямі і ўрадавымі структурамі — з мэтай рэфармавання медыя-сферы і заканадаўства, якое гарантуе свабоду выказвання.

«Палітыка добрасуседства Еўрапейскага саюза павінна быць абноўленая з улікам неабходнасці такога дыялогу і адлюстравання праблем, адзначаных у гэтым дакладзе. Вельмі важна, каб міжнародныя арганізацыі і структуры, такія, як Еўрапейскі саюза і яго дзяржавы-сябры, Савет Еўропы, АБСЕ, прынялі да ўвагі дадзены даклад, а таксама іншую інфармацыю аб сітуацыі ў Беларусі, сабраную праваабаронцамі, журналісцкімі і іншымі арганізацыямі грамадзянскай супольнасці, у працэсе ўзаемадзеяння з Рэспублікай Беларусь».

«Індэкс цэнзуры» таксама заклікае Еўрапейскі саюз працягнуць падтрымку грамадзянскай супольнасці і незалежных СМІ ў Беларусі», — падкрэслівають прадстаўнікі «Index on Censorship».

АГРАТУРЫЗМ

# КАЛЯДЫ ПАД ЖЫВЫМІ ЁЛКАМІ

Вольга ХВОІН

**Новым годам пакуль што асабліва і не пахне. Тым не менш уладальнікі беларускіх аграсядзібаў ды катэджаў пад арэнду ўжо паклапаціліся пра размяшчэнне і забавы гасцей. Радуе, што многія гаспадары найперш пазіцыянуюць свае сядзібы як месца культурна-азнаямляльнага адпачынку, а не п’янкі на прыродзе.**



Фота БелаПАН

Вёска Любушаны Бярэзінскага раёна, старадаўні абрад «зацягвання Каляды на дуб»

Увішныя госці таксама вызначыліся, дзе ім сустрэць 2013-ы год. На пачатку снежня многія беларускія аграсядзібы размясцілі на сваіх сайтах абвесткі, што на навагодні тыдзень сядзіба ўжо арэндаваная. Разам з тым нельга сказаць, што святы на свежым паветры абыдуцца танна.

Так, арэндаваць катэдж пад Мінскам з амбіцыйнай назвай «KingDom» можна за 3000 у.а. на суткі (з 31 снежня па 2 студзеня). Цана 28, 29, 30 снежня, а таксама 2, 3, 4 студзеня — 2 000 у.а. за суткі. Уладальнікі катэджу абяцаюць адпачынак класу люкс ды забаўляюць гасцей лазневым комплексам плошчай амаль 500 квадратных метраў. Яшчэ адна сядзіба пад Мінскам «Алекс» акурат спецыялізуецца на правядзенні карпаратываў. Банкетная зала, камін, танцпол... Кошт — 3000 у.а. за арэнду з 31 снежня па 2 студзеня.

Сядзібны комплекс «Каралінскі фальварак Тызенгаўза» запрашае правесці навагоднія святы з насычанай анімацыйнай праграмай — банкет, забавы, салют, ахоўваемая тэрыторыя. Святочныя тарыфы сядзібнага комплексу ад 85 у.а з чалавека да 400 у.а. за арэнду доміка на суткі.

У звычайныя дні адпачынак на тэрыторыі аграсядзібаў каштуе ў сярэднім 20–50 у.а. з чалавека. Але, хаця агратурыстычны бізнэс яшчэ толькі праходзіць працэсы станаўлення, гаспадары многіх сядзібаў прапануюць не толькі банкет на прыродзе, але і цікавую забаўляльную праграму.

«Цяпер ужо ўсім зразумела, што для гасцей трэба распрацоўваць турыстычныя маршруты. Людзі прыязджаюць на выходныя, і 2 дні сядзець без занятку ім нецікава. То бок мусяць быць прапановы — веласіпед, лыжы, экскурсіі, анімацыі — гаворыць дырэктар ТДА «Цэнтр развіцця сельскага прадпрымальніцтва «Камарова» Ала Вайцяховіч. — Для карпаратываў таксама мусіць быць забаўляльная праграма. Мы, калі замаўляюць карпаратыўную імпрэзу, абавязкова супрацоўнічаем з тымі, хто можа нам забяспечыць анімацыю».

У Валожынскім раёне ёсць сядзіба «Ганка». Яе гаспадары вырашылі пайсці далей ды адкрыць музей старадаўніх беларускіх напояў у дадатак да ўсіх анімацыйных праграм. Аляксей Лёлін, адзін з гаспадароў «Ганкі», наракае, што імідж аграсядзібам моцна псуюць «катэджы на суткі з лазнямі». «Гэта ж зусім не агратурызм, хаця многія карыстаюцца магчымасцю такім чынам увайсці ў ільготную сферу, — разважае Аляксей. — Я мяркую, што толькі 10–20 працэнтаў ад усіх зарэгістраваных аграсядзібаў можна назваць такімі. З культурнай, гістарычнай праграмай, выкарыстаннем прадукцыі мясцовасці. Я б сказаў, што агратурызм — не зусім сфера бізнэсу. Гэта поле дзейнасці для энтузіястаў, якія цікавяцца гісторыяй, адметнасцямі сваёй мясцовасці і хочуць падзяліцца сваімі набыткамі. Мы можам зарабляць грошы на турызме, але ў нас усё знаходзіцца ў зародкавым стане».

Аляксей Лёлін распавядае, як з уласных назіранняў прыйшоў да высновы, што аграсядзіба — гэта найперш аўтэнтыка, разынка, а не еўрарамонт і джакузі: «Горад заганяе ў такі тэмп, што часам хочацца пабыць у адзіноце. Аграсядзібы тым і цікавыя, што кожная прапануе сваю праграму: ад сплаваў на байдарках да страусіных фермаў. У нас ёсць кліент — дырэктар казіно, і ён гаварыў: хочацца менавіта самабытнага беларускага антуражу, прыбіральні на вуліцы, вясковай аўтэнтыкі, а не еўрарамонту, які ў яго і дома, і на працы».

Аляксей распавядае, што гаспадары «Ганкі» імкнуцца ладзіць разнастайныя мерапрыемствы, бо для заўсёднікаў будзе як мінімум дзіўна некалькі разоў глядзець адно і тое ж відовішча.

«Хочам арганізаваць нешта накшталт піянерскага лагера для дзяцей розных узростаў. І мы б хацелі там расказваць пра асновы выжывання ў дзікай прыродзе, даць магчымасць зварыць юшку на вогнішчы, спячы ў прысаку бульбу. Мы хочам выцягнуць людзей ад таго негатыву, што нясе сучаснасць, ад кампутараў і віртуальнага свету. Даўно выношваем план адкрыць музей беларускіх напояў. Але хвалі эканамічных крызісаў стрымліваюць. Хочам у адмысловым будынку стварыць музей, даць магчымасць гасцям дэгуставаць напоі, прыгатаваць сваімі рукамі», — гаворыць Аляксей Лёлін.

Ён прызнаецца, што гаспадары «Ганкі» імкнуцца «фільтраваць» кліентаў: «Ёсць людзі, якія мэтанакіравана едуць «пабухаць» і наесціся. Але нам гэта не цікава, бо мы імкнёмся ўкладаць душу ў сваю працу. Таму калі хоча прыехаць кампанія з падобнымі мэтамі, то нам лепш адмовіць ды заняцца нейкай працай. Яшчэ на стадыі перамоў мы глядзім, чаго хочуць людзі, на што настроеныя».

Да слова, пагалоскі, што менавіта расіяне на беларускіх аграсядзібах частыя і плацежаздольныя госці, небеспадстаўныя.

У сядзібе «Ганка» на навагоднія святы будуць гасціць расіяне. Аляксей Лёлін распавёў, што кампанію гэтую гаспадары ўжо ведаюць, і госці зацікаўленыя ў насычанай турыстычнай праграме, экскурсіях.

«Сёлета ў нас будзе моладзевая кампанія з Беларусі, яшчэ будуць расіяне. Расіяне прыедуць на пяць дзён. Для іх нашы ўмовы выгодныя па аплаце, коштах, культуры. Заходняя Беларусь цікавая, мы возім паглядзець нашы касцёлы, на экскурсіі па ваколіцах, — распавядае дырэктар ТДА «Цэнтр развіцця сельскага прадпрымальніцтва «Камарова» Ала Вайцяховіч. — Я расіян пазнаю адразу па іх адносінах, культуры. Яны прывыклі пачувацца жыхарамі вялікай імперскай дзяржавы, што тут нам ужо, беларусам, казаць... Але часам мы ўсё ж размаўляем на гэтую тэму, даводзім, што ўсё не так выглядае».

Ала Вайцяховіч таксама прызнала, што эканамічны крызіс на плынь турыстаў з Беларусі ўсё ж паўплываў: больш уважліва сталі вывучаць цэны, крыху зменшылася колькасць гасцей.

***

Цяпер у Беларусі налічваецца больш за 1900 вясковых сядзібаў. Толькі за 9 месяцаў гэтага года было зарэгістравана 350 суб’ектаў агратурызму, а плынь пастаяльцаў у гэтым годзе ўжо вырасла на 25 працэнтаў у параўнанні з мінулым годам.

Міністэрства спорту і турызму плануецца ажыццявіць катэгарызацыю і сертыфікацыю беларускіх сядзібаў. Гэта дазволіць турыстам лепш арыентавацца ва ўзроўнях сэрвісу ды адфільтраваць уладальнікаў тых самых «катэджаў на суткі», якія зарэгістравалі свае дамы менавіта як аграсядзібы ды карыстаюцца падатковымі і іншымі ільготамі. Праверкай суб’ектаў агратурызму плане заняцца Камітэт дзяржкантролю. Да асноўных крытэраў адпаведнасці агратурызму будуць аднесены не толькі паслугі пражывання, але і арганізацыя харчавання, вольнага часу, забаў і іншага.

АПЫТАННЕ

# ГАМЕЛЬЧУКІ І КАНЕЦ СВЕТУ

Андрэй ПАПОЎ

**Паводле статыстыкі, кожны дзясяты жыхар Зямлі верыць у магчымасць канца свету. Гэта амаль 700 мільёнаў чалавек. Але ці кожны з іх верыць у тое, што прароцтва індзейцаў мая спраўдзіцца і 2012 год стане годам Апакаліпсісу? І ці шмат такіх людзей ходзіць па вуліцах Гомеля?**

Для апытання я выбраў 24 чалавекі «з натоўпу». Па 12 мужчын і жанчын, па ўзростах я таксама падзяліў рэспандэнтаў роўна: 12 — ва ўзросце 18–30 гадоў і 12 — 35–60 гадоў. Усе апытаныя — жыхары Гомеля і Гомельскага раёну. Я прапаноўваў людзям набыць танны квіток у выратавальны бункер.

Першай мне трапілася на вочы немаладая жанчына. Я падышоў да яе і запытаўся:

— Ці чулі вы пра канец свету ў гэтым годзе?

— Так — адказвае яна, — чула.

— А ці не жадалі б вы даведацца, як можна выратавацца?

— Што тут ратавацца — як Бог дасць. Я не думаю, што ўжо і канец прыйдзе, але ўсё можа быць.

— А жадаеце купіць квіток у бункер, што пабудаваны недалёка, у Расіі? Нядорага — сто восемдзясят тысяч беларускімі.

— Не, не буду. Калі наканавана — ніякі бункер не ўратуе.

Напрыканцы размовы я растлумачыў мэту свайго даследавання. Яна шчыра ўсміхнулася і сказала, што сама з вёскі, што ўсё жыццё працавала, пра смерць думаць няма калі, а спадзявацца трэба на Бога.

Наступнай была маладая дзяўчына, якая адразу сказала, што гэта афёра і байка пра канец свету ў гэтым годзе. «Вось такія гандляры білетамі ў бункер і раздзьмуваюць агонь», — быў яе адказ.

Аналагічнымі былі адказы яшчэ дваццаці чалавек. Але былі і даволі цікавыя меркаванні. Студэнт Сяргей, напрыклад, не стаў бы набываць білет для сябе. А вось малодшую сястру адправіў бы.

Дзядок на ўваходзе ў прыгарадны вакзал прывёў прыклад з Джэка Лондана: «У пакутах нараджаецца дзіця, а смерць звязана з жыццём неразрыўна». Ён веруючы і лічыць, што «ратавацца трэба інакш».

— Куды білет, у бункер? — перапытваў мяне Аляксей, невялікага росту смуглявы мужычок у кепцы. — Ты прадаеш білеты ў бункер?

— Ды не, — кажу я, — у Маскве шмат хто набывае, вось я і пытаюся пра гамяльчан.




— У Маскве — усе нейкія дзіўныя. У іх грошай зашмат. Я прывожу з Масквы па сем ці па дзесяць «лямаў» — вось добра было, каб Лукашэнка нулікі прыбраў, лягчэй было б лічыць грошы... Масква... Неяк на мяне брыгадзір кажа «хахол»... А яму: «Я не хахол — беларус!» А таджыкі... Наехалі на мяне неяк раз, што я «не такі» — плюў не ем. Я аднаму, другому насаваў, дык яны хеўрай на мяне паперлі. Я тады за сякеры — крычу, дваіх пакладу! Яны мне — ты што, вар’ят? Я беларус! І яны тады адлезлі! Што Масква! Яны нічога не сеюць — палі неахайныя, дрэвамі параслі. Ніводнага камбайна, ніводнай машыны ў палях. Не тое, што ў нас! У нас не будзе разрухі, бо ёсць зерне, бульба. У нас сіла!

Развіталіся мы пад радкі Купалы, што цытаваў мне Аляксей: «А хто там ідзе. У агромністай такой грамадзе? — Беларусы!»

Не ведаю, як у Маскве, а ў Гомелі квіткі ў бункер не прадаюцца.

## 14 СНЕЖНЯ, ПЯТНІЦА

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.25** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**10.55** Іранічны дэтэктыў «Пацалунак Сакрата». Заключная серыя.
**12.10** Летапіс часоў.
**13.00** «1812 год». Дакументальны фільм (Белтэлерадыёкампанія).
**13.30** Заўтра - гэта мы!
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.15** Каталіцкія святыні Беларусі.
**16.45** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.30** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25, 00.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё « (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**21.55** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі « (Украіна).
**23.10** Серыял «Майстры жахаў».
**01.00** Дзень спорту.
**01.15** Летапіс часоў.

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**15.00** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Камедыя «Вяселле па абмене».
**22.45** АНТ прадстаўляе: «Што? Дзе? Калі?» у Беларусі.
**00.00** «Вячэрні Ургант».
**01.00** Прэм'ера. «Пасля школы».
**02.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** Прэм'ера. «Каханне 911».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Апошні паварот». Канада, 2006 г.
**15.35** «Хораша жыць».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Паўфінал Першай лігі МС КВЗ.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Якія людзі!».
**23.55** «Перамажы Покерстарз».
**00.45** «Адмысловы праект».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Час футболу.
**11.00** Страсці па культуры.
**11.40** Драма «Халоднае лета пяцьдзесят трэцяга…» (СССР).
**13.40** Прыгодніцкі фільм «Балада пра доблеснага рыцара Айвенга» (СССР).



**15.35** Беларуская кухня.
**16.10** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**19.15** Арэна.
**19.45** Фактар сілы.
**20.20** «Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.35** Крымінальная камедыя «Два дні ў даліне» (ЗША).

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Уся Расія».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Справа следчага Мікіціна».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Серыял «Даярка з Хацапетаўкі. Выклік лёсу».
**22.25** «Юрмала-2012». Фэст гумарыстычных праграм. Фінал. 2-ая частка.
**00.20** Навіны - Беларусь.
**00.30** Фільм «Закаханы і бяззбройны» (2010 г.).

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «І зноў добры дзень!».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Ліцейны».
**21.25** Вострасюжэтны фільм «Гонар самурая».
**23.15** Фільм «Адкажы мне».
**00.50** Масква - Ялта - транзіт.

### Eurosport

**00.15** Баявыя мастацтвы..
**01.00** Покер.
**02.00** Аўта і Мотаспорт.
**02.15** Біятлон: Кубак свету. Паклюка – Спрынт. Жанчыны.
**03.15** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**10.30** Санкавы спорт: Кубак свету.
**11.00** Плаванне: Чэмпіянат свету на кароткай вадзе Стамбул.
**12.45** Горныя лыжы: Кубак свету. Супер-Гігант. Жанчыны.
**14.15** Горныя лыжы: Кубак свету. Хуткасны спуск Мужчыны.
**15.30** Лыжныя гонкі: Кубак свету.
**16.00** Біятлон: Кубак свету. Паклюка – Спрынт. Жанчыны.
**17.30** Лыжныя гонкі: Кубак свету.
**18.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету.
**19.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Жанчыны. HS 100.
**20.30** Снукер: Еўрапейскі тур. Шатландыя - Дзень 1.
**23.00** Бокс.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар (паўтор).
**07.25** Без рэтушы: «Непамілаваны», рэпартаж, 2011 г., Беларусь.
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар (паўтор).
**08.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.50** Аб'ектыў.
**17.45** «Апошняя кніга Рышарда Капусьціньскага», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**19.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.45** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**20.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**20.25** Невядомая Беларусь: «Пастка для апазіцыі», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Рэвалюцыя», дак. фільм, 2007 г., Францыя: 4 серыя, «Аргентына: рэвалюцыя рондаляў і патэльняў».

## 15 СНЕЖНЯ, СУБОТА

### Беларусь 1

**06.35** Існасць.
**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**09.55** Камедыйны дэтэктыў «Зачараваны ўчастак» (Расія).
**11.05** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**11.35** Зямельнае пытанне.
**12.15** Мультфільмы.
**12.25** Камедыя «Жаніцьба Бальзамінава» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.35** Гістарычная драма «Анастасія Слуцкая» («Беларусьфільм»).
**17.25** Дакументальны серыял «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**18.25** Таямніцы следства.
**19.10** Прыгодніцкая меладрама «Апошні палёт» (Францыя).
**21.00** Панарама.
**21.40** Фільм жахаў «Астрал» (ЗША).



**23.35** Дзень спорту.
**23.45** Камедыйны дэтэктыў « Зачараваны ўчастак « (Расія).
**00.45** Перазагрузка.

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.25** «Здароўе».
**10.35** «Смак».
**11.15** «Разумніцы і разумнікі».
**12.00** Мультфільмы.
**12.20** Камедыя «Гараж».
**14.10** «Хвіліна славы».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Вялікія гонкі».
**17.50** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**18.40** Фільм «Эльвіра: Валадарка цемры».



**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.45** «Што? Дзе? Калі?».
**00.05** Прэм'ера. Фільм «Накаўт».

### СТВ

**06.00** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**07.45** «Анфас».
**08.00** Фільм «Мост караля Людовіка Святога «. Францыя- Вялікабрытанія - Іспанія, 2004 г.
**10.15** «Чыстая праца».
**11.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.10** «Прыгоды дылетанта».
**13.45** Фільм «Вакзал для дваіх». СССР, 1982 г., 1-я серыя.
**15.10** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Фільм «Пад знакам панны». Украіна, 2008 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Спакуса». ЗША - Францыя, 2001 г.
**22.25** «Дзіўная справа».
**23.20** Фільм «Не кажы нікому». Францыя, 2006 г.
**01.35** «Глядзець усім!».

### Беларусь 2

**07.20** Дабравест.
**07.50** Прыгодніцкі фільм «У пошуках капітана Гранта» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**10.20** Мультфільмы.
**11.20** Тэлебарометр.
**11.25** Пазакласная гадзіна.
**11.45** Альбарутэнія.
**12.15** Наперад у мінулае.
**12.50** Шоў «Суперінтуіцыя».
**14.00** Беларуская кухня.
**14.35** Біятлон. Кубак свету. Гонка праследу. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**15.25** Пад грыфам «Вядомыя».
**16.00** Парушаючы запаведзі….
**16.50** Біятлон. Кубак свету. Гонка праследу. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**17.35** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**18.55** Ваша лато.
**19.35** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.45** «Імперыя песні». Музычна-забаўляльнае караоке- шоў.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.20** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Манчэстар Юнайтэд - Сандэрленд.
**00.20** Шоў «Суперінтуіцыя».

### Россия

**07.00** «Юрмала-2012». Фэст гумарыстычных праграм. Фінал. 2-ая частка.
**08.40** Фільм «Начны госць» (2011 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Уся Расія».
**12.10** Тэлесерыял «Вясна ў снежні».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**14.50** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**15.50** «Джэнтльмены поспеху». 40 гадоў пасля».
**16.50** «Новая хваля-2012». Лепшае.
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.45** «Танцы з Зоркамі». Сезон-2012.
**22.55** Фільм «Прыгажуня і Пачвара» (2012 г.).
**01.00** Фільм «Крылы анёла» (2008 г.).



### НТВ

**06.20** Вострасюжэтны серыял «Справа Крапівіных».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Жывуць жа людзі».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** Галоўная дарога.
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** Вострасюжэтны серыял «Шэрыф».
**15.05** «Жаночы погляд».
**16.00** Сёння.
**16.20** «Следства вялі.».
**17.10** «Вочная стаўка».
**18.05** Выратавальнікі.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.30** «Прафесія-рэпарцёр».
**20.00** «Праграма Максімум».
**21.10** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.15** «Ты не паверыш!».
**23.20** Вострасюжэтны фільм «Дубля не будзе».
**01.00** «Рэакцыя Васэрмана».

### Eurosport

**01.00** Снукер: Еўрапейскі тур. Шатландыя.
**02.00** Плаванне: Чэмпіянат свету на кароткай вадзе Стамбул.
**03.15** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**10.30** Плаванне: Чэмпіянат свету на кароткай вадзе Стамбул.
**11.00** Плаванне: Чэмпіянат свету на кароткай вадзе Стамбул.
**12.45** Горныя лыжы: Кубак свету. Хуткасны спуск. Жанчыны.
**14.15** Санкавы спорт: Кубак свету.
**14.45** Біятлон: Кубак свету. Паклюка – Мужчыны. Гонка праследу.
**15.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. HS 137.
**17.30** Лыжнае дваябор'ства: Кубак свету.
**18.30** Біятлон: Кубак свету. Паклюка – Жанчыны. Гонка праследу.
**19.00** Кёрлінг: Чэмпіянат Еўропы. Швецыя. Фінал. Мужчыны.
**20.30** Снукер: Еўрапейскі тур. Шатландыя. Дзень 2.
**22.30** Лыжныя гонкі: Кубак свету.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар (паўтор).
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.50** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар (паўтор).
**08.25** Невядомая Беларусь: «Пастка для апазіцыі», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**08.55** Аб'ектыў.
**18.05** Беларусы ў Польшчы.
**18.25** «Апантаныя», дак. цыкл.
**18.35** Калыханка для самых маленькіх: «Польскія казкі і паданні».
**18.55** «У пошуку ідышу», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**20.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Цудам ацалелы», маст. фільм, 2004 г., Польшча.

## 16 СНЕЖНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.25** Камедыя « Жаніцьба Бальзамінава» (СССР).
**07.55** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**08.30** Медычныя таямніцы.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Нашы.
**09.50** Камедыйны дэтэктыў « Зачараваны ўчастак « (Расія).
**10.55** Заўтра - гэта мы!
**11.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.15** Мультфільмы.
**12.35** Культурныя людзі +.
**13.10** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.35** Мультфільмы «Рэактыўнае парася» («Беларусьфільм»).
**15.55** Народная камедыя «Свежына з салютам» («Беларусьфільм»).
**17.30** Каробка перадач.
**18.00** «Еўрабачанне -2012». Канцэрт.
**19.05** Меладрама «Хатняя прыслужніца» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Фантастычны фільм «Пандорум» (Германія-Вялікабрытанія).
**00.25** Камедыйны дэтэктыў « Зачараваны ўчастак « (Расія).

### НТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.35** Фільм «Насця».
**14.10** Прэм'ера. Фільм «Парцалянавае вяселле».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** АНТ прадстаўляе: «Фактар смеху».
**17.30** Прэм'ера. Асяроддзе пасялення.
**18.25** АНТ прадстаўляе: «Песні маёй краіны».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Здабытак Рэспублікі».
**23.20** «Yesterday Live».
**00.20** Камедыя «На Дзерыбасыўскый добрае надвор'е, на Брайтан-Біч ізноў ідуць дажджы».



### СТВ

**06.10** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**08.00** Фільм «Спакуса». ЗША-Францыя, 2001 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Жыць будзеце».
**11.00** «100 адсоткаў».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**13.10** «Добры дзень, доктар».
**13.45** Фільм «Вакзал для дваіх». СССР, 1982 г. 2-я серыя.
**15.05** «Дзіўная справа».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Дзяўчына, якая разбурала паветраныя замкі». Швецыя-Данія-Германія, 2009 г.
**23.20** «Куміры».
**00.15** Фільм «Клас». Эстонія, 2009 г.

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.30** Таямніца душы.
**07.55** Прыгодніцкі фільм «У пошуках капітана Гранта» (СССР). 3-я і 4-я серыі.
**10.30** Тэлебарометр.
**10.35** Пазакласная гадзіна.
**10.55** Альбарутэнія.
**11.30** Школа рамонту.
**12.35** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.45** Пра мастацтва.
**14.15** Вышэй за дах.
**14.50** Біятлон. Кубак свету. Гонка з масавым стартам. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**15.45** Футбол. Чэмпіянат свету 2014.
**16.20** Фактар сілы.
**16.50** Біятлон. Кубак свету. Гонка з масавым стартам. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**17.50** Шоў «Суперінтуіцыя».
**18.50** Суперлато.
**19.40** Спорт-кадр.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Спартовая драма «Хардбол» (ЗША-Германія).
**23.15** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ.

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Васільеўская выспа» (2008 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** Тэлесерыял «Вясна ў снежні».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Уся Расія».
**14.30** «Улада факту».
**15.20** «Адзін у акіяне».
**16.20** Фільм «Афіцэры».
**18.15** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Фільм «Каханне для бедных» (2012 г.).
**23.25** Паўфінал Першай лігі МС КВЗ.

### НТВ

**06.20** Вострасюжэтны серыял «Справа Крапівіных».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.20** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.25** «Паедзем, паямо!».
**13.00** Сёння.
**13.20** Вострасюжэтны серыял «Шэрыф».
**15.00** «Таямнічая Расія».
**16.00** Сёння.
**16.20** «Развод па-руску».
**17.20** «І зноў добры дзень!».
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**20.00** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.50** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.35** «ЦТ. Адкрыцці».
**22.30** «ЦТ. Вячэрняе».
**23.15** «Венік». Ток-шоў.
**00.10** «Прамень святла».
**01.40** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.

### EUROSPORT

**00.00** Снукер: Еўрапейскі тур. Шатландыя. Дзень 2.
**01.00** Кёрлінг: Чэмпіянат Еўропы. Швецыя. Фінал. Жанчыны.
**02.30** Біятлон: Кубак свету. Паклюка – Жанчыны. Гонка пераследу.
**03.15** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. HS 137.
**10.15** Санкавы спорт: Кубак свету.
**11.15** Горныя лыжы: Кубак свету. Мужчыны. Слалам-Гігант. 1-я спроба.
**12.30** Горныя лыжы: Кубак свету. Жанчыны. Слалам-Гігант. 1-я спроба.
**13.15** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. HS 137.
**13.45** Санкавы спорт: Кубак свету.
**14.45** Біятлон: Кубак свету. Паклюка.
**15.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. HS 137.
**17.30** Лыжнае дваяборства: Кубак свету.
**18.15** Снукер: Еўрапейскі тур. Шатландыя.
**19.45** Біятлон: Кубак свету. Паклюка.
**20.15** Біятлон: Кубак свету. Паклюка.
**21.00** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Жанчыны. 15км. Класіка.
**21.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. HS 137.
**22.15** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Мужчыны. 30км. Класіка.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Цюхця, што ты за стварэнне?!», «Фільм са страшнаю назваю», «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**07.45** «Таямніца Саґалі», серыял: 13 серыя.
**08.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.20** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**18.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.25** МакраФон: «Салідарныя з Беларусcю–2012», канцэрт: выступ «W-Z аркестра».
**18.45** Казкі для дзетак: «Польскія казкі і паданні».
**19.00** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял: «Гіганты і карлікі».
**19.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.45** Дакументальная гадзіна: «Аргентынскі ўрок», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**20.45** «Царква на мяжы», рэпартаж, 2010 г., Польшча.
**21.15** Фільматэка майстроў: «Павернуты», маст. фільм, 1994 г., Польшча.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Гомель: (8 029) 697 82 75 Аляксандр;
Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8029) 364 42 60 Зінаіда.

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

ПАРАЛЕЛІ

# ЗАІРЫЗАЦЫЯ І МАДЭРНІЗАЦЫЯ ЎСЁЙ КРАІНЫ

Алег НОВІКАЎ

**За кошт кампаніі «заірызацыі», якая пачалася 40 гадоў таму, Жазэф-Дэзірэ Мабуту трапіў у спіс самых экстравагантных дыктатараў у гісторыі.**


Жазэф-Дэзірэ Мабуту

Каб увесці чытача ў кантэкст, трэба ўзгадаць Патрыса Лумумбу (нацыянальнага героя Дэмакратычнай Рэспублікі Конга (DRC) — былой афрыканскай бельгійскай калоніі, адной з самых вялікіх і багатых рэсурсамі краін свету). Менавіта забойства Лумумбы ў 1961 годзе выклікала ў DRC палітычны крызіс, які закончыўся ў 1965-м вайсковым пераваротам. Так да ўлады прыйшоў наш герой, на той час яшчэ палкоўнік Жазэф-Дэзірэ Мабуту, выхадзец з беднай сям'і, які дзякуючы місіянерам стаў журналістам, а пасля вайскоўцам. Першыя перыяды праўлення Мабуту (1965–1971 гады) характарызаваліся спробамі цэнтралізацыі краіны і ўстанаўлення палітычнай стабільнасці: так, у 1967 годзе была ўведзеная аднапартыйная сістэма.

Па вялікім рахунку, такая траекторыя рэжыму не была чымсьці дзіўным. Практычна ўсе маладыя незалежныя афрыканскія дзяржавы хутка скаціліся да аўтарытарызму. Прычым часам пад патранажам самых дэмакратычных краін Захаду, якія лічылі, што дэмакратыя на месцах — дробязь у параўнанні са стаўкай у халоднай вайне.

Аднак у 1971 годзе Мабуту сапраўды занесла. Пасля візіту ў Пекін, дзе ён меў асабістае рандэву з Мао, Жазэф-Дэзірэ вырашыў правесці сваю культурную рэвалюцыю. Ключавой задачай кампаніі, якая атрымала назву «заірызацыя», было вяртанне да афрыканскіх каранёў, татальная адмова ад каланіяльнай спадчыны (у нашы часы, напэўна, такі курс назвалі б барацьбой з імпартам).

Вось як апісваў «заірызацыю» сам яе аўтар: «Аўтэнтычнасць прымусіла нас выявіць нашу індывідуальнасць, дасягаючы глыбінь нашага мінулага і яго багатай культурнай спадчыны, што пакінулі нам нашы продкі. У нас няма намеру сляпога вяртання ў мінулае. Хутчэй, мы хацелі б абраць тое, што можна адаптаваць да сучаснага жыцця. Тое, што садзейнічае прагрэсу».

Пачаў Мабуту з перайменавання краіны. Замест DRC ён прапанаваў, каб яго радзіма называлася Заір. Ініцыятыва выклікала ступар сярод гісторыкаў. Заір — прыдуманая партугальцамі назва ракі Конга (Нзары, Мванза — на мясцовых мовах). Аднак Мабуту не хацеў слухаць спецыялістаў. Назву Заір таксама атрымала мясцовая валюта. Адбыліся змены ў і дзяржаўнай сімволіцы. Дзяржаўным гербам Заіра стала сімволіка афіцыйнай партыі — «Народны рух рэвалюцыі» (MPR). Для папулярызацыі новай геральдыкі прэзідэнт запатрабаваў, каб новы герб быў чамусьці выяўлены на ўсіх стаканчыках марожанага.

Пасля гэтага працэс, як гаворацца, пайшоў. На працягу года былі перайменаваныя ўсе гарады, назвы якіх нагадвалі пра каланіяльнае мінулае. Сталіца Леападвіль стала Кіншасай, а Стэнлвіль, названы ў гонар вядомага журналіста Джона Стэнлі) — Кісангані. Дасталася і рэчкам, якія пачалі называцца так, як і да прыходу каланізатараў. Аўтэнтычнасць патрапіла нават у дыпламатычны пратакол. Цяпер усіх высокапастаўленых дыпламатаў, якія прыбывалі ў Заір, сустракала не ганаровая варта, а артысты, якія выконвалі рытуальны танец з барабанамі. Нават французская мова, якая па-сутнасці была афіцыйнай, пацярпела, яе патрабавалі называць «Lingala».

У 1972 годзе прыйшла чарга разабрацца з еўрапейскім адзеннем. Пачалася новая кампанія, якая патрабавала ад заірцаў адмовіцца ад еўрапейскіх касцюмаў на карысць тунікі пад назвай abacost. Адпаведны варыянт тунікі быў распрацаваны для жанчын, якім таксама забаранілі карыстацца касметыкай і насіць міні-спадніцы. Нельга было цяпер звяртацца да іх «мадам». Усе жанчыны сталі «грамадзянкамі».

Мабуту заклікаў суайчыннікаў адмовіцца ад хрысціянскіх імёнаў. І асабіста падаў прыклад: перапісаў сваю метрыку — ён стаў Мабуту Сесе Секо Куку Нбенду Ва Забанга. У літаратуры існуюць некалькі варыянтаў перакладу гэтага імені. Найбольш арыгінальны прапануе адзін з французскіх сайтаў — «Вялікі баявы певень, які пераадольвае ўсе перашкоды і топча ўсіх курэй». Для лаканічнасці Мабуту таксама прапаноўваў называць яго «Стратэг» ці «Бацька-заснавальнік», або, на крайні выпадак, «Вялікі Леапард з Кіншасы».

Барацьба з хрысціянскімі імёнамі фактычна значыла вайну з Касцёлам, у які на той час хадзіла каля паловы жыхароў краіны. Мабуту не хаваў, што заірцы патрабуюць «ментальнага вызвалення», і 4 снежня 1974 года пайшоў на беспрэцэдэнтны крок. У гэты дзень дзяржаўнае радыё абвясціла пра тое, што Мабуту вырашыў замяніць постаць Ісуса Хрыста ў хрысціянскай рэлігіі. Аднак у выніку Касцёл змог утрымаць сваю аўтаномію. Увогуле, хутка царква стала галоўнай базай мясцовага дысідэнцкага руху.

Літаральна з першых дзён існавання рэжыму Мабуту ў заходняй прэсе яго абвінавачвалі ў палітычных рэпрэсіях. Таму перад візітамі ў Еўропу або ЗША Мабуту ішоў на хітры ход: даваў амністыю аднаму з дысідэнтаў і браў з сабой у замежны тур. Калі падчас прэс-канферэнцыі нехта пытаў пра наяўнасць у Заіры палітвязняў, дыктатар, нібы той фокуснік, запрашаў у залу прывезенага з сабою дэмакрата. Калі меркаваць па прэсе, гэты прыём уздзейнічаў на журналістаў.

Нельга не прызнаць, што «заірызацыя» была падтрымана часткай мясцовай інтэлігенцыі. Так, адмовіліся ад «хрысціянскіх» імёнаў некалькі вядомых артыстаў. Улада актыўна дапамагала ім стварыць новыя стылі афрыканскага мастацтва, не падобныя на еўрапейскія. Увогуле, ідэя вяртання да крыніц была папулярная на той час сярод афрыканцаў і афраамерыканцаў. Пасля правалу амерыканцаў у В'етнаме шмат хто лічыў, што Трэці свет здольны перамагчы Захад.

Шэраг гісторыкаў лічаць, што «заірызацыя» была прыдуманая, каб стварыць фон для нацыяналізацыі сектару буйных прадпрыемстваў, якія належалі бельгійскаму капіталу, што адбылося ў 1974 годзе. Таксама не выключана, што ў рамках вяртання да аўтэнтычнасці Мабуту прапагандаваў сваю аўтарытарную мадэль. Ён казаў, што грамадства павінна быць пабудавана па схеме моцнага племені, а ў племені, як вядома, толькі адзін правадыр. Культ асобы сапраўды перайшоў усе разумныя межы. Адпаведна закону, усе газеты былі павінныя ставіць фота Мабуту на першай старонцы, прычым штодня. Было забаронена згадваць на першай старонцы любыя імёны, акрамя Мабуту.

Кампанія «заірызацыі» пачала выдыхацца ў сярэдзіне 1970-х гадоў з-за шэрагу фактараў. Перш за ўсё, з-за эканамічных наступстваў. Адным з фрагментаў «заірызацыі» было прызначэнне на пасады замежных адміністратараў тубыльцаў. Гэта хутка прывяло да краху эканомікі, паколькі новыя адміністратары разглядалі пасаду як крыніцу хуткай нажывы. У дадатак у суседняй Анголе да ўлады прыйшлі прамаскоўскія марксісты, якія аказвалі дапамогу сепаратыстам адной з правінцый Заіра. Кіншаса пачала больш актыўна сябраваць з Прэторыяй, Парыжам і Вашынгтонам для аказання адпору партызанам, што не вельмі пасавала антызаходняй істэрыцы.

У дадатак у гэты час сам Мабуту захапіўся гісторыяй масонскага руху і патрабаваў заснаваць пры адміністрацыі масонскую ложу. Ложа называлася «Prima Curia» і ўключала амаль усю кіроўную эліту. Кожны кандыдат павінен быў сваёй крывёю падпісаць дакумент вернасці Вялікаму Натхняльніку — так цяпер вырашыў называць сябе Мабуту.

Праўда, праз пару гадоў гульню ў масонаў дыктатар закінуў. Цяпер Вялікага Натхняльніка ахапіла ідэя палітычнай мадэрнізацыі і стварэння новай мадэлі рэспублікі, дзе б легальна існавалі праўладныя партыі. Такая рэспубліка была абвешчаная ў 1990 годзе. Адпаведна ёй, заірцы маглі зноў называцца хрысціянскімі імёнамі. Нарэшце, у 1997 годзе, пасля таго, як Мабуту збег з краіны пад ціскам народнага паўстання, новая ўлада знішчыла галоўны рэлікт «заірызацыі». Заір зноў стаў называцца Дэмакратычная Рэспубліка Конга.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Беларуская грамадскасць чакае прыняцця дэкрэту прэзідэнта, які забароніць працоўным звальняцца падчас мадэрнізацыі заводаў і фабрык краіны. Пры гэтым абмеркаванне перспектыў выканання ўказання і яго магчымых наступстваў застаецца тэмай нумар адзін. Складана не пагадзіцца з тым, што ў больш аддаленай перспектыве цяперашні скандал негатыўна адаб'ецца на рэйтынгу Аляксандра Лукашэнкі сярод яго электарату — працоўных і сялян.

**«Независимая газета» (Расія)**

Беларусы, якія пражываюць наводшыбе цывілізацыі ў цэнтры Еўропы, — нонсэнс. Яны стаміліся ад аднаго і таго ж твару, асобы, якая захапіла ўладу і не жадае расстацца з ёй. На хвалі гэтай стомленасці змены ў краіне могуць адбыцца імкліва. Іншая справа, хто ўзначаліць краіну, паабяцаўшы «шчаслівую будучыню». Не выключана, што гэта будзе яшчэ адзін дыктатар, калі народ зноў даручыць яму дзейнічаць у імя «навядзення парадку».

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Крыніца «Эксперта» ў апараце беларускага ўрада кажа, што Лукашэнка зноў пачаў працаваць на расійскі электарат. У выпадку любога канфлікту, звязанага з Расіяй на глебе складаных эканамічных пытанняў, Лукашэнка будзе апеляваць да рускіх — «братоў», з якімі «ў Другую сусветную ў адных акопах сядзелі». Пры гэтым, вядома, спартовы імідж Лукашэнкі выглядае больш моцным за імідж Пуціна, які атрымаў траўму на банальнай трэніроўцы. Вось толькі як бы такія тонкія палітычныя манеўры не пазбавілі Лукашэнку зніжак на газ і магчымасцяў для атрымання чарговых расійскіх крэдытаў.

**«Эксперт» (Расія)**

Ацэньваючы заяўлены беларускім прэм'ерам курс на прыватызацыю дзяржаўных актываў, можна казаць пра тое, што крытычная пазіцыя Еўропы ў адносінах да выбараў прымусіла Лукашэнку пераарыентавацца на Расію, дзелавыя колы якой даўно зацікаўленыя ў набыцці самых ліквідных беларускіх прадпрыемстваў.

**«Политком» (Расія)**

Беларускія ўлады фіксуюць трывожныя тэндэнцыі на рынку працы. Профільнае міністэрства канстатуе дзесяціразовае перавышэнне колькасці вакансій над колькасцю беспрацоўных, а ўрадавыя службоўцы прызнаюцца, што бягуць з краіны ўжо нават калгаснікі… Самы відавочны адказ на пытанне пра чыннік адтоку кадраў — фінансавы. Нягледзячы на браваду ўладаў пра набліжэнне да сярэдняй зарплаты ў 500 долараў, сапраўды да гэтай лічбы набліжаецца вельмі мала беларусаў. Сярэдняя зарплата нацягваецца за кошт адносна высокіх прыбыткаў начальнікаў, паколькі прадстаўнікі сельгаспрадпрыемстваў сцвярджаюць, што іх прыбыткі знаходзяцца на ўзроўні 100 долараў, і выжываць атрымоўваецца толькі за кошт асабістых гаспадарак. Тое, што эканамічная мадэль улады зайшла ў тупік, прызнаюць нават прадстаўнікі гэтай самай улады, але ў кулуарах: разбурыць міф прэзідэнта Лукашэнкі пра ўнікальную мадэль развіцця не рызыкуе ніхто.

**«Вести» (Малдова)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. ЗАПЛАЦІ ПАДАТАК — І СПЯВАЙ ПА-РУСКУ

Ірына Фарыён, ваяўнічы дэпутат украінскай Вярхоўнай Рады ад нацыяналістычнай арганізацыі «Воля», прапанавала ўвесці ў музычнай індустрыі падатак на рускую мову для выканаўцаў або для станцый, якія транслююць такія творы. Падобны падатак, па словах дэпутата, ужо ўведзены ў Францыі і Швейцарыі. «Наколькі мне вядома, у Францыі і Швейцарыі існуе падатак на чужую песню і чужую мову. Жадаеш, каб яна прысутнічала, — заплаці грошы, і з гэтых грошай мая культура будзе развівацца. Нешта падобнае мае сэнс уводзіць ва Украіне», — заявіла яна ў адным з інтэрв'ю. Пры гэтым Фарыён прызнала, што 25 працэнтаў электарату яе партыі — рускамоўныя людзі. Аднак самы правакацыйны выраз тычыцца яе ацэнак «аранжавай» рэвалюцыі. Па яе словах, нацыяналісты дапусцілі памылку, калі падтрымалі Ючшанку на Майдане. «Калі б Януковіч прыйшоў да ўлады ў 2004 годзе, фармаванне нацыянальнай свядомасці ўкраінцаў як рэакцыя на нахабства і аўтарытарызм Януковіча пачалося б раней», — кажа Ірына.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЗША. ЗА ЗМЕНУ РЭЛІГІІ — СМЕРЦЬ



Амерыканскае выданне «Pew Forum on Religion and Public Life», якое вывучае стан рэлігіі ў свеце, правяло аналіз заканадаўчых актаў ва ўсіх краінах на планеце, якія тычацца пытання змены рэлігіі. Высновы цікавыя. У 20 краінах свету пераход у іншую канфесію караецца смерцю. Гэта тыя краіны, дзе дзяржаўнай рэлігіяй з'яўляецца іслам. Маюцца на ўвазе Егіпет, Ірак, Іарданія, Кувейт, Аман, Катар, Саудаўская Аравія, Судан, Сірыя, Аб'яднаныя Арабскія Эміраты, Йемен, Афганістан, Іран, Малайзія, Пакістан, Маўрытанія, Нігер, Самалі, Мальдзівы і Каморскія астравы. Пры гэтым забаўна тое, што хадзіць на імшы іншых рэлігій або практыкаваць неісламскі культ, як правіла, не забараняецца. Проста забараняецца рабіць гэта публічна, што прымушае вернікаў іншых канфесій часам весці напаўпадпольнае жыццё.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. НАЗАРБАЕЎ — ГЭТА ДЖОРДЖ ВАШЫНГТОН СЁННЯ

У Астане прайшоў міжнародны форум «Назарбаеўскія чытанні», удзельнікі якіх спрабавалі ацаніць значнасць постаці прэзідэнта Казахстана для сусветнай гісторыі. На думку абсалютна ўсіх, Назарбаеў — сапраўдная глыба. «У сучасным свеце прэзідэнту Казахстана няма альтэрнатывы, у плане досведу, мудрасці, волі. Таму яго за мяжой завуць палітыкам глабальнага ўзроўню», — заявіў Касым-Жамарт Такаеў, былы міністр замежных спраў Казахстана, цяпер намеснік генеральнага сакратара ААН. Дзяржсакратар Казахстана Мухтар Кул-Мухамед параўнаў Назарбаева з бацькамі-заснавальнікамі ЗША — Джорджам Вашынгтонам, Томасам Джэферсанам, Джэймсам Мэдысанам. Міністр адукацыі і навукі Казахстана Бакытжан Жумагулаў заявіў на форуме, што «Назарбаеўскія чытанні» «трэба ўспрымаць як складовую частку навуковага асэнсавання чалавецтвам шляхоў развіцця сваёй цывілізацыі». У такім жа тоне былі вытрыманыя і выступы іншых дакладчыкаў. Змест падобных прамоў вельмі кантрастуе з ацэнкамі спадчыны Назарбаева, якія даюць удзельнікі казахскіх інтэрнэт-форумаў. Нейкі блогер піша: «Усё, як у мультфільме пра дзяўчынку і зайчыка: «Хто пахваліць мяне лепш за ўсіх, той атрымае вялікую салодкую цукерку!» Лепш за ўсіх — былы прэм'ер-міністр. Толькі што ён атрымае пасля смерці Нурсултана?»

**Паводле казахскай прэсы**

### РАСІЯ. ПАЧЫНАЕЦЦА АДРАДЖЭННЕ ДАЛЁКАЎСХОДНЯЙ РЭСПУБЛІКІ

Дзяржаўнае фармаванне Далёкаўсходняя Рэспубліка, што існавала падчас грамадзянскай вайны ў Прымор'і, можа хутка зноў з'явіцца на мапе свету. Менавіта так расійскія эксперты ацанілі рашэнне пасяджэння прэзідыума Дзяржсавету па пытанні развіцця Далёкага Усходу і Забайкальскага краю. У мерапрыемстве прыняў удзел асабіста Уладзімір Пуцін. Вырашальным пунктам яго прапаноў стала ідэя «зафіксаваць з 1 студзеня 2014 года ўсе падатковыя паступленні фізічных і юрыдычных асоб рэгіёна, і ўвесь гэты грашовы прырост накіроўваць на карпарацыю «Далёкі Усход», якая па-сутнасці будзе аўтаномна кіраваць эканомікай рэгіёна, маючы нават правы прымаць законы для рэгіёну. Як піша прэса, «механізм аддзялення Далёкага Усходу і Забайкалля ад Расіі набыў пасля гэтага канчатковую форму». Ідэя Далёкаўсходняй рэспублікі, якая дзесяцігоддзямі гуляе па гэтых месцах, пры выкананні ўсіх гэтых планаў паўстане ва ўвесь рост (прынамсі, дэ-факта).

**Паводле расійскай прэсы**

▶ **АРМІЯ**

# КАЎНЕРЫК АД ЮДАШКІНА

*Алег НОВІКАЎ*

**Расійскае грамадства спрабуе адказаць на глабальнае пытанне, ці павінны быць на салдацкай форме падкаўнерыкі.**

Усё, што адбываецца, чымсьці нагадвае сцэну з вядомага фільму «Тот самый Мюнгхаўзен». У фільме герцаг вельмі крытычна ацэньвае фасон мундзіра, у якім яму прапануюць пайсці на вайну: «Што? Мне — у гэтым? У аднабортным? Ды вы што, не ведаеце, што ў аднабортным цяпер ужо ніхто не ваюе? Як агідна! Вайна ля парогу, а мы не гатовыя!»

Рымейк мізансцэны адбыўся ў Маскве пасля прыходу на пасаду мінабароны Сяргея Шойгу. Першае, чым заняўся новы міністр, — пачаў, як той герцаг, высвятляць, у якім мундзіры трэба ісці на вайну. На спецыяльным пасяджэнні было вырашана ўнесці ў цяперашні варыянт вайсковай формы значныя папраўкі.

Нагадаем, што цяпер салдаты ў Расіі носяць форму ад славутага куцюр'е Валянціна Юдашкіна. Калекцыя называецца «Лічба» і прыйшла на змену так званай «афганцы», якую насілі з 1990-х гадоў. Ад ранейшай яна адрознівалася вельмі істотна: размяшчэннем пагонаў, наяўнасцю элементаў на ліпучцы, новым дызайнам гузікаў. Акрамя таго, Мінабароны адмовілася ад анучаў, валёнак, а шынялі сталі вузкімі і прыталенымі з нізкім размяшчэннем верхняга гузіка.

Цяпер шмат чаго з гэтага забракавалі. Чамусьці больш за ўсё не спадабаўся генералам такі элемент, як «стаячы падкаўнерык». У ананімным каментары для газеты «Известия» нейкі генерал папросту не знаходзіў сабе месца: «Нашто гэта — што шыю нельга вымыць!» (заява абсурдная, паколькі падкаўнерык надзяваецца на вымытую шыю).

Аднак чамусьці падаецца, што мытая шыя — апошняе, што цікавіць генералаў у гэтай сітуацыі. Так здарылася, што ўведзеная ў 2010 годзе форма выклікала шмат нараканняў у грамадстве. Крытыка даходзіла да таго, што распрацоўшчыка гардэроба за вочы абвінавацілі ледзь не ў датычнасці да серыі трагедый.

Усё пачалося з ЧП у 2010 годзе. У сакавіку таго года праваабаронцы паведамілі пра масавыя абмаражэнні салдатаў, апранутых у форму ад Юдашкіна, у горадзе Юрга Кемераўскай вобласці. Па звестках праваабаронцаў, з дыягназам «пераахаладжэнне» было адпраўлена ў шпіталь да 250 салдат адной вайсковай часткі, прычым некалькі чалавек знаходзіліся ў крытычным стане.

Следчая пракурорская група, што прыбыла ў частку, ніякіх дэфектаў формы не знайшла. Яна вызначыла прычынай павальнай пнеўманіі неналежнае выкананне



абавязкаў па забеспячэнні бяспечных умоў нясення службы пры знаходжанні на адкрытым паветры ў моцныя маразы. Аднак з таго часу Юдашкін ікаў шмат разоў. Кожны казус з вострай прастудай сярод асабістага вайсковага складу ахвотна спісвалі на кепскія якасці яго адзення.

Аднак, як толькі пасадзілі Сердзюкова, Юдашкін стаў у Расіі публічным ворагам нумар адзін. Па яе неабсяжных прасторах пракацілася сапраўдная кампанія асуджэння прадукцыі атэлье Юдашкіна. Напрыклад, салдацкія маці Ліпецка правялі сходы, на якіх у адным з першых пунктаў павесткі дня было пытанне пра форму, якую распрацаваў Юдашкін. Іх рэзюме: «З каўняром «стойкай» лепш хадзіць на спатканні, а не Радзіме служыць. Акрамя таго, час вярнуць пагоны і не эканоміць на якасці тканіны. Яна павінна быць больш шчыльнай і цёплай».

Да крытыкі Юдашкіна таксама падключыліся патрыёты. Так, вядомы чырвона-карычневы публіцыст Аляксандр Прахонаў усур'ёз лічыць, што Юдашкін праз сваю форму прапагандуе нетрадыцыйную сэксуальную мадэль паводзінаў. Прахонаў адзначыў: «Я бачыў эскізы, гэта была форма жабо, у афіцэраў быў велізарны рознакаляровы гульфік, велізарнае дэкальтэ ў падпалкоўнікаў, і яны маглі скрозь гэта дэкальтэ паказваць свае магутныя валасатыя грудзі. Гэта была сапраўдная гей-форма, якая ўпрыгожыла б любы парад. Разумееце? Любы парад».

Уладзімір Жырыноўскі заявіў пра тое, што Юдашкіна неабходна прыцягнуць да адказнасці за распрацоўку няўручнай і халоднай ваеннай формы. Па меркаванні лідара ЛДПР, «няўдача праекта заключаецца ў тым, што мадэльер сам не служыў у войску і не знаёмы з нягодамі ваеннай службы».

Сам Юдашкін перайшоў у адкрытую апазіцыю, абазваўшы Шойгу і яго атачэнне «Дольчэ і Габаны». Па яго словах, вайскоўцы груба сказілі яго першапачатковы праект, замянілі ў ім тканіны, фурнітуру, матэрыялы, якія ўтрымліваюць цяпло. У выніку, па яго словах, замест інавацыйнай формы атрымалася «падробка». І самае цікавае: аказваецца, тая форма, на якую перайшла расійская армія ў 2010 годзе, вельмі адрозніваецца ад распрацаваных ім арыгінальных мадэляў «Лічбы». Як кажа майстра, створаны ім праект быў пасля скажоны Мінабароны. У прыватнасці, Юдашкін распавёў пра тое, што ў яго маюцца лісты ад прадстаўнікоў міністэрства, у якіх паведамляецца пра дапрацоўкі, унесеныя ў зімовую і летнюю форму. Быццам, гэта і пагоршыла якасць адзення.

Тут ужо запахла смажаным. Відавочна, што эскізы былі падкарэктаваныя з мэтай банальнага абагачэння нейкай зацікаўленай групы генералаў, якія выдавалі замовы прадпрыемствам на шыццё формы. З такім тэзісам цяпер носіцца дэмпрэса. Не прайшла яна і міма наступнага цікавага факту.

З'явіліся чуткі, што Валянцін Юдашкін атрымаў замову не за так. Юдашкін, як сцвярджаюць глянцавыя медыя, любімы мадэльер Святланы Мядзведзевай, якая ў 2008 годзе стала першай лэдзі Расіі. Эксперты таксама звярнулі ўвагу на тое, што пасля выканання замовы для Мінабароны на Юдашкіна літаральна пасыпаліся прапановы. Ён распрацаваў форменнае адзенне супрацоўнікаў «Рыбаховы», касцюмы прыслугі на саміце АТЭС ва Уладзівастоку, гардэроб выхаванцаў Пансіёну Міністэрства абароны і г. д. Адным словам, магчыма, ён быў пратэжэ Мядзведзева, што кідае цень на цяперашняга прэм'ера.

Аднак фінал гэтай гісторыі стаў яшчэ больш непрадказальным, пасля таго, як некаторыя крыніцы ў Мінабароны заявілі, што мундзіры ад Шойгу таксама не вельмі зручныя. І тут нечаканa ўсплывае інфармацыя, што фірма «БТК груп» ужо працуе над новай калекцыяй. Іншымі словамі, усё ідзе да чарговай змены гардэробу, які можа ўляцець дзяржаве ў капейку, аднак яўна азалаціць сектар, які будзе выконваць загад па шыцці новай уніформы. Дарэчы, рэформа Юдашкіна каштавала бюджэту, па розных крыніцах, ад 5 да 25 мільярдаў расійскіх рублёў.

Усё гэта, канешне, сведчыць пра абсалютна завоблачны ўзровень карупцыі. Але самае смешнае наперадзе — «БТК груп», дарэчы, паводле загаду былога міністра абароны Анатоля Сердзюкова, працуючы над новай формай, фактычна цалкам скапіявала армейскую адзежу з амерыканскага камплекта ACU (Army Combat Uniform). Формы адрозніваюцца толькі расфарбоўкай і невялікімі зменамі ў прапорцыях дэталяў. З ACU скапіяваны нават дэталі, якія не маюць у расійскім войску практычнага ўжывання. Так, на каўняры курткі прышытыя дзве ліпучкі — у ЗША на іх мацуюць знакі адрознення, нашто яны расійскім салдатам, не зразумела.

Патрыятычная грамадскасць ужо ўзняла гвалт. Так што можна не сумнявацца: як толькі ў Расіі канчаткова разбяруцца з каўнерыкам «стойка», пачнецца не менш жорсткая баталія наконт ліпучак.

КІНО

# НЕМАСТАЦКАЯ ДЫСКУСІЯ

Алег НОВІКАЎ

**Фільм «Pokłosie» («Наступствы», або «Іржышча» ў рускім пракаце) рэжысёра і сцэнарыста Уладзіслава Пасікоўскага стаў сапраўднай падзеяй у культурным і палітычным жыцці Польшчы.**




Цяжка згадаць, каб нейкі мастацкі твор у Польшчы атрымліваў такія палярныя ацэнкі. Прычым выказванне стаўлення да фільма (асабліва негатыўнага) набывала б настолькі крайнія формы.

Так, улады аднаго з невялікіх гарадоў Польшчы нават вырашылі забараніць дэманстрацыю фільма «Pokłosie», паколькі, на іх думку, стужка «антыпольская». Рашэнню папярэднічаў скандал у мясцовым кінатэатры. Публіка прыкладна ў сярэдзіне сеансу прымусіла прыпыніць дэманстрацыю карціны.

Што ўжо казаць пра інтэрнэт. Інтэрнэт-форумы проста разрываюцца ад абразаў на адрас актораў, якія выканалі галоўныя ролі ў «Pokłosie». Больш за ўсё дасталося Мацею Штуру — сыну легендарнага актора Ежы Штура, якога мы ўсе ведаем па ролях у фільмах «Дэжа вю» і «Новыя прыгоды Амазонак». Мацей яшчэ ўчора быў усенародным улюбёнцам, а цяпер імкліва губляе фрэндаў на сваёй старонцы на Facebook. Некаторыя пакідаюць каментары накшталт: «Мацей давёў, як хутка можна ператварыцца з інтэлігента ў ідыёта», «Pokłosie» — гэта плявок у твар Польшчы», «Перастань ср..ць у роднае гняздо» і г.д.

Аднак шмат людзей лічаць фільм прарывам, напрыклад, Анджэй Вайда або Раман Паланскі. Міністр культуры Богдан Здраеўскі падзякаваў аўтару «за адвагу ў выбары тэмы».

Што ж так спадабалася адным і так раз'юшыла іншых ? Стужка «Pokłosie» знятая ў жанры трылеру, распавядае пра лёс Францішка Каліны (актор Ірэнеуш Чоп), які пасля некалькіх гадоў эміграцыі вяртаецца ў Польшчу ў родную вёску Гурувка. Яму кажуць, што яго малодшы брат (яго ролю якраз і выконвае Мацей Штур) пасварыўся з суседзямі. Прычына канфлікту звязаная з даўняй гісторыяй — з яўрэйскімі пагромамі, якія адбываліся тут у 1941 годзе. Высвятляецца, што ўся вёска — ад п'янтосаў каля мясцовай крамы да вікарыя, і нават паліцэйскіх, — аб'яднаная клятвай маўчаць пра пагром. Між тым, герой Штура парушае клятву, выкопвае з зямлі закапаныя яўрэйскія магільныя помнікі. У фінале браты ўступаюць з суседзямі ў адкрыты канфлікт, які заканчваецца судом Лінча над Францішкам: яго распінаюць на крыжы.

Усім зразумела, што падзеі ў Гурувке — гэта алюзія на тое, што здарылася ў Едвабне. Тут у ліпені 1941 года мясцовая грамада палякаў прыняла ўдзел у знішчэнні амаль усіх мясцовых яўрэяў, якія, дарэчы, складалі пераважную большасць жыхароў мястэчка. Спачатку іх забівалі паасобку — палкамі, камянямі, мучылі, адсякалі галовы. Потым, 10 ліпеня, людзі былі загнаныя ў хлеў і спаленыя жыўцом. Колькасць забітых дасюль цалкам не вядомая. Інстытут нацыянальнай памяці агучвае лічбу ў 340–350 чалавек. Некаторыя даследчыкі кажуць пра паўтары тысячы. Таксама спрэчным застаецца адказ на пытанне пра ролю немцаў у арганізацыі пагрому.

Едвабне — як мулета для польскіх правых. Таму выхад на экраны «Pokłosie» папросту раз'юшыў іх вулей.

Калі пачытаць польскую правую прэсу, то пагромы накшталт таго, які здарыўся ў Едвабне, — былі прыроднай рэакцыяй палякаў на вядомы факт шырокага супрацоўніцтва яўрэйскага насельніцтва з Саветамі ў 1939–1941 гадах. Яўрэям прыпісваюць папросту фантастычныя заслугі ў тым, што Чырвоная Армія так хутка захапіла край. Калі верыць выданню «Uwazan Rze», яўрэі інфармавалі Саветы пра рух польскіх войскаў, выконвалі акты дыверсіі і атакавалі адзінокіх салдат, якія адсталі ад сваіх аддзелаў.

Тое ж выданне «Uwazan Rze» адзначае: «Выпадкі, калі палякі паводзілі сябе кепска адносна яўрэяў, не павінны быць табу. Аднак гэты выпадак ператварыўся ў інструмент самабічавання польскага народу. Мэта дэбатаў — у тым, каб палякі пачалі саромецца сваёй гісторыі. Фільм ёсць тыповым прадуктам гэтай педагогікі сораму. Палякі ў Пасікоўскага — гэта натоўп гунаў, якіх апанавала нянавісць да яўрэяў». На думку аўтара, нават у фільмах пра амерыканскі расізм расісты так брутальна не распінаюць неграў, як гэта робяць простыя польскія сяляне.

Правыя не былі б правымі, калі б не пабачылі тут след змовы. Найбольш арыгінальныя правыя блогеры сцвярджаюць, што грошы на здымкі «Pokłosie» даў асабіста Пуцін. Іншыя прыплятаюць яшчэ і Ангелу Меркель, якая быццам марыць з дапамогаю «Pokłosie» перакласці на палякаў усю адказнасць за Халакост. У карціне ў сцэнах пра пагром няма ніводнага нямецкага салдата, што, на думку некаторых правых культуролагаў, быццам, можа выклікаць уражанне, нібы Халакост — справа рук палякаў.

«Чаму славакі не знялі фільм пра Славацкую дзяржаву, якая была саюзнікам Гітлера і вывазіла славацкіх яўрэяў у Асвенцым? Або чаму рускія не спяшаюцца здымаць фільм пра выпадкі, калі салдаты Чырвонай Арміі гвалцілі немак напрыканцы Другой сусветнай вайны?» — піша адзін з блогераў.

Яшчэ далей пайшлі клерыкалы, якія пабачылі ў сцэне з распяццем намёк на распяцце Ісуса Хрыста, што быццам з'яўляецца свядомым здзекам з рэлігіі.

Парадаксальна, аднак левая і ліберальная польская прэса далёка не ў захапленні ад карціны. Звяртаюць увагу на тое, што фільм пра такую сур'ёзную тэму зняты ў жанры трылеру. Гэты стыль вельмі цяжка адаптаваць да Польшчы. На думку левых інтэлектуалаў, часта гэтыя прыёмы трылеру выклікаюць хутчэй смех, а не пачуццё трагедыі.

Таму, безумоўна, яго стваральнікі маглі дазволіць сабе фішкі, якія супярэчаць гісторыі. Напрыклад, у фільме жыхары Гурувкі пераследуюць яўрэйскіх суседзяў, паколькі з'яўляюцца прыхільнікамі старога паклёпу пра тое, што яўрэі быццам забілі Хрыста. У 1939–1941 гадах ва Усходняй Еўропе не было ніводнага пагрому, прычынай якога былі згаданыя забабоны. Як правіла, пагромы былі інспіраваныя немцамі, або былі часткай расправы натоўпу над чальцам савецкай адміністрацыі.

У любым выпадку, левыя і лібералы бачаць пазітыў у тым, што тэма яўрэйскіх пагромаў сапраўды агучана. Адзін з палякаў яўрэйскага паходжання кажа: «Лічу «Pokłosie» фільмам, у якім ёсць нейкі элемент праўды, аднак размова пра яе ідзе ў вельмі прымітыўнай форме, калі шмат прыпісваецца і выдумляецца».

Застаецца пажадаць палякам разабрацца ў сваіх праблемах гісторыі і пашкадаваць, што дыскусія пра Другую сусветную вайну ў Беларусі практычна закансерваваная. Магчыма, у выніку гэтага апошнія беларускія стужкі пра вайну не выклікаюць ніякай грамадскай рэакцыі, не кажучы пра нейкую дыскусію.

Між тым, палітычнае кіно ў Польшчы становіцца вельмі папулярным. Тут і раней здымалася шмат дакументальных фільмаў на тэмы палітыкі. Аднак цяпер гэтая тэма актыўна пранікае і ў мастацкае кіно. На наступны год анансаваны выхад першага мастацкага фільма пра катастрофу пад Смаленскам, дзе ў 2011 годзе разбіўся прэзідэнт Польшчы. З улікам таго, што рэжысёр будучай карціны сімпатызуе правым, якія ўпарта кажуць, што катастрофа была справай расійскіх спецслужбаў, фільм абяцае быць вельмі рэзанансным.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### АРЦЁМ САМСОНАЎ



Прыморскі дэпутат-камуніст пачаў судзіцца за права хадзіць неапранутым па бязлюдным пляжы. Па яго іску ў Маскве распачаўся суд над шэрагам СМІ, якія ён абвінаваціў у замаху на свой гонар і прафесійную рэпутацыю. Яшчэ з часу абрання Самсонава ў дэпутаты ў прыморскіх інтэрнэт-супольнасцях пачалі з'яўляцца фатаграфіі, на якіх чалавек, падобны на Самсонава, выяўлены то ў спушчаных трусах, то ў жаночай сукенцы, то як ён цалуецца з мужчынам. Праўда, публіка не ўспрымала гэта ўсур'ёз, спісваючы на чорны піяр з боку ўлады. Нагадаем, што Самсонаў зрабіў палітычную кар'еру як праціўнік забароны імпарту іншамарак і аўтар транспаранта «Путлер — капут!», за які атрымаў адміністратыўная папярэджанне. Аднак цяпер сам палітык даў глебу для спекуляцый. Ён выклаў у свой блог серыю забаўных фота. На адным са здымкаў дэпутат на пустэльным марскім беразе галышом, затуляючыся ніжэй пупка маскай для нырання. На другім выяўлены ў набедранай павязцы і г.д. Неардынарныя выявы прыцягнулі ўвагу СМІ, якія ахвотна перадрукавалі іх. Не ўхвалілі паводзін таварыша і аднапартыйцы. Давялося Самсонаву ісці ў суд. Праўда, пакуль не зразумела, што сапраўды хоча камуніст, які напярэдадні працэсу дае абсалютна супярэчлівыя каментары. Так, з аднаго боку, ён аспрэчвае тое, што яго абвінавачваюць у эксгібіцыянізме, маўляў, пляж быў пусты, яго ніхто не бачыў, значыць, «ён не агаляўся для грамадскасці». З іншага — кажа, што ў палітыцы павінна быць максімальная публічнасць, каб электарат ведаў, чым займаюцца яго абраннікі.

### ПІР ШТЭЙНБРУК



Кандыдат ад нямецкіх сацыял-дэмакратаў на пасаду канцлера ФРГ літаральна за адзін тыдзень згубіў статус палітыка, які здольны перамагчы Ангелу Меркель на прызначаных на наступны год выбарах у Бундэстаг. Калі на пачатку мінулага тыдня рэйтынг партыі Штэйнбрука складаў 37 працэнтаў (практычна як і ў хрысціянскіх дэмакратаў), то напрыканцы ён рухнуў да 29 працэнтаў. Прычынай расчаравання немцаў у эсдэках стала інфармацыя пра прыбыткі Штэйнбрука за мінулы год. Аказваецца, ён толькі на лекцыях зарабіў 1,25 мільёна еўра плюс яшчэ паўмільёна на продажы кніжак. Усе прыбыткі абсалютна легальныя, аднак памеры не адпавядаюць іміджу Штэйнбрука, які выстаўляе сябе звычайным бюргерам і крытыкам банкаўскіх спекулянтаў. Падзенне даверу да правадыра «ружовых» зноў спарадзіла прагнозы, што Меркель можа застацца на пасадзе канцлера і пасля 2013 года. Дарэчы, на мінулых выходныя на партыйным з'ездзе ў Гановеры яе пераабралі на пасаду старшыні з 92 працэнтамі (абсалютны рэкорд у гісторыі з'здаў хрысціянскіх дэмакратаў). Праўда, не зразумела, з кім Меркель збіраецца фармаваць кааліцыю. Усе сацыялагічныя апытанні паказваюць, што лібералы — традыцыйныя ўрадавыя партнёры кансерватараў, — могуць увогуле не трапіць у парламент. У такім выпадку найбольш верагодны фармат — вялікая кааліцыя эсдэкаў і хрысціянскіх дэмакратаў. Што тычыцца Штэйнбрука, то ўсе дружна раяць яму адмовіцца ад высокіх ганарараў.

### АРЦЁМ ШАПІРЭНКА



Звычайны ўкраінскі турыст з Адэсы стаў сімвалам руху папуасаў за выхад са складу Інданезіі і стварэння самастойнай дзяржавы. Усё пачалося з таго, што Арцём паехаў адпачываць у тую частку вострава Папуа, які належыць Інданезіі. Падчас нейкай рэлігійнай службы ўкраінскі грамадзянін выгукнуў: «Свабоду Папуа!» Гэта было расцэнена інданезійскімі праваахоўнікамі як заклік да сепаратызму. Пасля Шапірэнка быў арыштаваны мясцовай паліцыяй і цяпер чакае суда па артыкулу «Дзейнасць супраць дзяржаўнага адзінства Інданезіі», што можа пацягнуць на тры гады турмы. Пра гэта падчас брыфінгу ў Кіеве распавёў кіраўнік прэс-службы Міністэрствы замежных спраў Украіны. Па яго словах, «папуаскі сепаратыст» пакуль не звяртаўся ва ўкраінскае консульства па дапамогу, «але, калі ён гэта зробіць, Украіна падасць яму ўсю неабходную дапамогу ў рамках кампетэнцыі свайго консульства». Акрамя таго, як высветліліся, украінец заехаў у Інданезію па турыстычнай візе, тэрмін дзеяння якой мінуў чатыры месяцы таму. Што зацягнула Шапірэнку ў папуаскую палітыку, сказаць цяжка. Праўда, калі меркаваць па яго старонцы на Facebook, кантакты з папуаскі нацыяналістамі ў яго былі. Ён нават наведаў лагер нацыяналістаў, быт у якім Арцём апісвае так: «Галоўным чынам з раніцы да вечара глушаць самагонку, паляць марыхуану і вядуць гутаркі пра свабоду і рэвалюцыю».

▸ СПАДЧЫНА

# АНАТОЛЬ КУНЦЭВІЧ СУМАВАЎ ПА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

Сяргей ЧЫГРЫН

**У кнізе «З беластоцкай зямлі» (Беласток, 2008) адзін невялікі раздзел я прысвяціў Анатолю Сумнаму. Пры падрыхтоўцы матэрыялу да кнігі мне нават не ўдалося разгадаць, хто хаваўся пад псеўданімам Сумны.**



Анатоль Кунцэвіч, 1948 г.

Ведаў я толькі тое, што ён нарадзіўся на Беласточчыне, быў прыхільнікам Беларускай Цэнтральнай Рады, падрыхтаваў альманах «Ускалось», які загінуў падчас бамбардзіроўкі ў Германіі, пісаў вершы. Адзін верш «Маліцьба» ўдалося адшукаць у часопісе «Баявая Ускалось» (1970, №10). Але гэта кволы літаратурны твор-настальгія, твор-просьба, твор-самота па Радзіме. Больш-менш удалай атрымалася першая страфа:

*Маці святая, заступніца шчырая,*
*Я Табе душу сваю адчыняю.*
*Граець у сэрцы цудоўная ліра,*
*З ёй гэту песню я сёння складаю...*

Пасля Другой сусветнай вайны сляды Анатоля Сумнага згубіліся дзесьці ў Аўстраліі.

Вось і ўсё, што было мне вядома пра чалавека з псеўданімам Сумны. Тым не менш, я пакінуў і гэтыя невялікія звесткі пра яго. Калі даследчык беларускіх псеўданімаў Янка Саламевіч прачытаў мае кнігі, дык адразу сказаў, што пад псеўданімам Анатоль Сумны хаваецца праваслаўны святар Анатоль Кунцэвіч.

Пачаліся новыя пошукі. І за гэты час ужо сёе-тое ўдалося знайсці пра Кунцэвіча-Сумнага. Сабранае па крупінцы дае ўяўленне пра лёс гэтага незвычайнага чалавека і шчырага беларуса. Тым больш, што сёлета споўнілася 100 гадоў з яго дня нараджэння.

Анатоль Кунцэвіч нарадзіўся 14 красавіка 1912 года на Беласточчыне, магчыма, у вёсцы Ялоўка. Па іншых звестках, ён нарадзіўся 14 чэрвеня ў Пінску. Але гэта малаверагодна, бо ў паваенных дакументах ён сам указваў, што нарадзіўся на Беласточчыне. Бацька яго ў Ялоўцы быў святаром. Там, у Ялоўцы, Анатоль у 1924 годзе паступіў у Віленскую духоўную семінарыю. А пасля семінарыі скончыў яшчэ факультэт праваслаўнага багаслоўя Варшаўскага ўніверсітэта. Як бачыце, Анатоль Кунцэвіч у маладосці атрымаў вельмі добрую адукацыю.

У 1926 годзе юнака забралі на вайсковую службу. Служыў ён у 81-м палку пяхоты ў Брэсце. А пасля службы вярнуўся дамоў і прыняў духоўны стан. Пасвяціў яго ў духоўны сан пазнейшы мітрапаліт Аляксандр Іназемцаў у Пінску.

У 1942 годзе Анатоль Кунцэвіч выехаў у Германію. Разам з ім выехалі жонка і двое іх сыноў — Мікола і Юрык, яго брат Мікалай з жонкай, а таксама маці з бацькам. Спадар Анатоль працаваў настаяцелем праваслаўнай царквы ў Нортгайме. Адтуль ён звярнуўся з прашэннем да епіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ) Сяргея Ахатэнкі, каб той прыняў яго пад ягоную юрысдыкцыю і прызначыў настаяцелем праваслаўнай парафіі пры лагеры ў Гановеры. Хутка яго просьбу задаволілі. І Кунцэвіч быў прызначаны настаяцелем праваслаўнага прыходу БАПЦ у лагеры ДП у Гановеры.



Браты Мікалай і Анатоль Кунцэвічы (злева направа) са сваімі жонкамі, іх маці з унукамі — сынамі Анатоля, 1947 г.



Сыны Анатоля Кунцэвіча — Коля і Юрык

Святарскія абавязкі Анатоль Кунцэвіч выконваў шчыра і аддана. Па хадайніцтву епархіяльнага эканома і сакратара Міколы Дзямідава, пастановай кіраўніцтва БАПЦ ад 2 студзеня 1949 года за вельмі карысную і паспяховую дзейнасць і за арганізацыю царкоўна-прыхадскога жыцця сярод праваслаўных беларусаў, протаіерэю Анатолю Кунцэвічу была выказана падзяка і просьба да Уладыкі Сяргея Ахатэнкі ўзнагародзіць яго чарговай протаіерэйскай узнагародай. А таксама прызначыць Анатоля Кунцэвіча благачынным прыходаў БАПЦ на англійскую зону і даручыць яму далейшую арганізацыю новых прыходаў і часовае адміністрацыйнае кіраўніцтва імі ў англійскай зоне да прызначэння адпаведных настаяцеляў. Гэта была для Кунцэвіча прыемная навіна. І ён з новай сілай узяўся за працу.

Але хутка Уладыка Сяргей пакінуў Германію і выехаў у Аўстралію, у Сідней. За ім выехаў і Анатоль Кунцэвіч. У 1952 годзе ў Сіднеі ўжо дзейнічала парафія БАПЦ, у якой набажэнствы праводзіў святар Зялінскі, да якога далучыўся і протаіерэй Анатоль Кунцэвіч. Там наш зямляк таксама прымаў удзел у працы Беларускага Аб'яднання ў Новым Паўднёвым Уэльсе, дапамагаў беларусам набажэнствамі. Але, як і большасць святароў БАПЦ, Анатоль Кунцэвіч мусіў працаваць і яшчэ ў іншым месцы, відаць, займаўся фізічнай працай. А калі ў 1957 годзе Уладыка Сяргей пераехаў у Пэрт, то Кунцэвіч адышоў ад грамадскай беларускай справы і ад царкоўнай.

У пошуках звестак пра Анатоля Кунцэвіча я звярнуўся да свайго земляка спадара Барыса Данілюка з пытаннем, што ён ведае пра святара. Спадар Данілюк, калі яшчэ жыў, сказаў, што чуў пра святара Анатоля, але як склаўся ягоны лёс, не ведаў. І параіў звярнуцца да яшчэ аднаго земляка-слонімца Анатоля Хрэноўскага, які жыве ў Канадзе. Што я хутка і зрабіў. На пытанне, ці ведаў той Анатоля Кунцэвіча, спадар Хрэноўскі адказаў:

— Я вельмі ўзрадаваўся, што ёсць яшчэ людзі на зямлі, якія цікавяцца лёсам нашых патрыётаў. Айцец Анатоль Кунцэвіч быў прарокам-прапаведнікам. Гэтага вялікага, мудрага і шчырага чалавека я буду памятаць да самай смерці.

***— І якім ён вам запомніўся?***

— Успамінаецца нямецкі горад Нортгайм, англійская зона. Я, мае бацька і маці жылі ва ўкраінскім лагеры. Жылі мы там доўгі час. Аднойчы нам паведамілі, што ўкраінцы павінны пакінуць гэты лагер, бо сюды прыязджаюць вайскоўцы-палякі з арміі Андэрса. Але мы засталіся, бо бацька наш быў брыгадзірам у брыгадзе, якая пілавала лес амерыканцам. Яму сказалі заставацца і паабяцалі, што нас ніхто тут чапаць не будзе. Бацька пагадзіўся, і мы засталіся. Праз пэўны час, сапраўды, прыехалі палякі, а з імі прыехаў і айцец Анатоль Кунцэвіч з жонкай і са сваімі сыночкамі. Мы пазнаёміліся. Аказалася, што спадар Анатоль быў святаром у арміі Андэрса. З ім разам прыехала і шмат беларусаў. Тут мой бацька, айцец Анатоль і іншыя беларусы адкрылі царкоўны прыход БАПЦ. Разам мы святкавалі ўсе царкоўныя праваслаўныя і беларускія нацыянальныя святы. Жылі дружна і весела, спадзяваліся, што хутка вернемся на Бацькаўшчыну.

Сам Анатоль Кунцэвіч быў сапраўдным беларускім праваслаўным хрысціянінам. Трэба было бачыць і чуць, як ён выдатна праводзіў набажэнствы. А калі казаў пропаведзі — мурашкі бегалі па целе. Гэта было незвычайна. Можа, з-за таго, што ён служыў святаром у войску. Крыж ён трымаў высока і моцна прапаведаваў. Бацька яго быў старастам і спяваў у хоры, маці таксама спявала ў хоры. Сам Анатоль ведаў шмат беларускіх песень, умеў добра танчыць, разбіраўся ў танцах, складаў вершы, добра маляваў, пісаў іконы алейнай фарбай. Ён быў вельмі таленавітым чалавекам. Я яму падчас службаў падаваў кадзіла. Ён мяне навучыў з воску рабіць свечкі. Я ўсё ж за яго быў маладзейшы на 22 гады і шмат чаму добраму ў яго вучыўся.

***— Але ж па волі лёсу на Бацькаўшчыну вярнуцца ніхто тады не змог. Вы паехалі з сям'ёй у Канаду, а Анатоль Кунцэвіч застаўся...***

— У 1949 годзе мы выехалі ў Канаду. Праз некалькі гадоў я даведаўся, што Анатоль Кунцэвіч жыве ў Аўстраліі. У Аўстраліі жыў і Аляксей Васіленя са Слонімa, з якім я перапісваўся. Неяк я ў Васілені спытаўся, што ён ведае пра Кунцэвіча. Спадар Васіленя адказаў, што Кунцэвіч пачаў моцна піць. Я планаваў забраць яго з сям'ёй у Канаду, але ўжо было позна, яго не стала. Мне вельмі шкада Анатоля, ён быў душой нашага народа...

Да ўсяго сказанага вышэй хочацца дадаць, што Анатоль Кунцэвіч вельмі сумаваў па Радзіме, па роднай Беларусі. У лістах да сваіх сяброў заўсёды пісаў, што сумуе па Бацькаўшчыне, нават псеўданім сабе ўзяў — Анатоль Сумны. Гэтая настальгія, незваротны жыццёвы адчай дачасна загналі яго магілу дзесьці ў 1960-х гадах. Пра лёс ягоных жонкі і сыноў звестак знайсці пакуль не ўдалося.

МІГРАЦЫЯ

# У ПОШУКАХ ЛЕПШАЙ ДОЛІ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У міжваенны час міграцыйная палітыка польскіх улад была досыць ліберальнай. Грамадзяне Польшчы мелі права наведваць любыя краіны, а таксама выязджаць у іншыя дзяржавы на пастаяннае месца жыхарства ці на працу. Усяго ў перыяд з 1918 па 1939 гады Другую Рэч Паспалітую пакінула 1,3 мільёна чалавек. Сярод гэтых людзей было нямала і беларусаў.**


Адзнакі савецкіх памежнікаў у Бігосава


Будынак банка PKO SA у Буэнас-Айрэсе



Аргенцінскі пашпарт Уладзіміра Малько

Улады Польшчы разглядалі палітыку ў сферы міграцыі як спосаб рэгулявання нацыянальнай структуры насельніцтва. Гаворка, перш за ўсё, ідзе аб усходніх ваяводствах, так званых «крэсах», дзе няпольскае насельніцтва пераважала над тытульнай нацыяй. Так, 24 лютага 1938 года ў Варшаве прайшло пасяджэнне міжміністэрскай камісіі па эміграцыі, на якім было заяўлена пра неабходнасць падтрымкі і стымулявання эміграцыі нацыянальных меншасцяў з тэрыторый, дзе адзначалася перавага прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў над палякамі (гаворка ішла, перш за ўсё, пра Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну). Акрамя гэтага, удзельнікі пасяджэння выказаліся за забарону эміграцыі з гэтых тэрыторый этнічных палякаў.

Аднак галоўнай прычынай таго, што заходнія беларусы пакідалі свае дамы і адпраўляліся за мяжу, было беспрацоўе і «зямельны голад». Буйныя зямельныя надзелы ў Віленскім, Навагрудскім і Палескім ваяводствах знаходзіліся ў руках багатых польскіх землеўласнікаў, а сродкаў для таго, каб выкупіць гэтую зямлю ў «пана», папросту не было. Некаторыя жыхары Заходняй Беларусі, паддаўшыся камуністычнай прапагандзе, выбіралі «ўцёкі» у «бальшавіцкі рай». Іншыя легальна афармлялі дакументы і з'язджалі ў Латвію, Эстонію, Францыю, Аўстрыю ці за акіян, у Паўночную ці Паўднёвую Амерыку.

Выезд за мяжу польскіх грамадзян ажыццяўляўся па замежных пашпартах. Першапачаткова за атрыманне такога дакумента трэба было заплаціць сімвалічную суму, аднак з 1925 года атрыманне пашпарта стала бясплатным. Для таго, каб атрымаць замежны пашпарт для выезду на сезонныя працы ў адну з еўрапейскіх краін, жадаючы павінен быў прадставіць даведку з дзяржаўнай установы па працоўным пасрэдніцтве, а ў выпадку выезду за акіян трэба было прадставіць адпаведны дакумент з эміграцыйнага агенцтва. Звычайна з афармленнем такіх папер праблем не ўзнікала.

Калі казаць пра заакіянскую працоўную міграцыю, то часцей за ўсё заходнія беларусы з'язджалі ў Аргенціну. Справа ў тым, што 17 жніўня 1932 года ў Буэнас-Айрэсе была падпісана канвенцыя, якая надзяляла польскіх грамадзян аднолькавымі з аргенцінцамі правамі ў пытанні кампенсацыі пры няшчасных выпадках на працах. Таксама канвенцыя прадугледжвала выплату сродкаў сваякам і блізкім (без уліку іх месца пражывання) у выпадку гібелі польскіх працоўных у Аргенціне.

Акрамя гэтага, польскія ўлады паклапаціліся пра тое, каб мігранты з Другой Рэчы Паспалітай не мелі праблем з перасылкай зробленых грашовых сродкаў на радзіму. У сакавіку 1929 года Міністэрства фінансаў Польшчы стымулявала стварэнне банка PKO SA, галоўнай задачай якога было правядзенне аперацый па пераводзе зберажэнняў польскіх гастарбайтэраў на радзіму. Адно з першых замежных аддзяленняў гэтага банка было адкрыта менавіта ў Аргенціне.

У 1920–1930-х гадах у гэтую лацінаамерыканскую краіну з Польшчы прыехала, па розных падліках, да 20 тысяч беларусаў. Што дзіўна, звычайна палітычна апатычныя беларусы разгарнулі ў Аргенціне актыўную грамадскую дзейнасць. У 1939 годзе ў гэтай краіне адбылося аб'яднанне беларускіх культурна-асветніцкіх арганізацый у Федэрацыю беларускіх таварыстваў, дзейнасць якой насіла адкрыта прасавецкі характар. Многія заходнебеларускія перасяленцы далучаліся да прафсаюзнага руху і Кампартыі Аргенціны. У канцы 1920-х гадоў быў створаны Саюз украінскіх і беларускіх працоўных арганізацый Аргенціны, які ў 1934 годзе налічваў у сваім складзе ўжо каля 3 тысяч сябраў.

Прыехаўшыя ў Аргенціну беларусы з польскімі пашпартамі часцей за ўсё працавалі фермерамі (чакарэра) або наёмнымі рабочымі; адпраўляліся таксама на нафтаздабычу на поўдзень, у Камадора-Рывадавія. Многія адразу па прыбыцці асядалі ў гарадах, асабліва ў Буэнас-Айрэсе. Адным з тых, хто вырашыў пакінуць Другую Рэч Паспалітую і перабрацца ў Аргенціну, быў і жыхар Навагрудскага ваяводства Уладзімір Малько. У пачатку 1930-х гадоў ён працаваў фермерам, але перад самай вайной, у 1939 годзе, назапасіўшы грошай на куплю зямельнага ўчастка, вырашыў вярнуцца на радзіму. На жаль, нам не вядомы далейшы лёс гэтага чалавека. Хутчэй за ўсё, ён згінуў у бездані Другой сусветнай вайны або стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій. Адзіным прадметам, які нагадвае пра гэтага жыхара Заходняй Беларусі, з'яўляецца яго аргенцінскі пашпарт, выдадзены паліцыяй Буэнас-Айрэса.

Іншым ажыўленым напрамкам працоўнай міграцыі заходніх беларусаў былі прыбалтыйскія краіны — Латвія і Эстонія. Латвійскі рынак працы ў 1930-х гадах адчуваў вялізарную нястачу працоўных рук, перш за ўсё ў сельскай гаспадарцы. У 1938 годзе польскія ўлады правялі перамовы з латышамі па пытанні заключэння Дамовы аб эміграцыі, абумовіўшы ў гэтым дакуменце правы польскіх сезонных рабочых у гэтай краіне. 29 кастрычніка 1938 года паміж урадамі Польшчы і Латвіі была падпісана дамова, якая значна спрасціла становішча польскіх рабочых у Латвіі. Падобная сітуацыя была і ў дачыненні да Эстоніі. Многія беларусы працавалі ў эстонскіх марскіх партах, а таксама наймаліся работнікамі да тамтэйшых землеўласнікаў. Пасля падпісання міжурадавай дамовы аб працоўных мігрантах у 1937 годзе ў Эстонію з усходніх польскіх ваяводстваў выехала каля 700 сельскагаспадарчых рабочых. Сярод іх быў і беларус Мікалай Стадольнік з вёскі Пашэкі, Дзісненскага павета, Віленскага ваяводства.

Мікалай хутка прызвычаіўся да новых умоў жыцця і працы, тым больш, што сялянскую працу ён добра ведаў. Да таго ж, 22 лістапада 1938 года паміж Польшчай і Эстоніяй была заключана эміграцыйная дамова, якая абумоўлівала правы польскіх сезонных рабочых у Эстоніі. Гэтая навіна не магла не цешыць беларускіх працоўных мігрантаў. 27 красавіка 1939 года Мікалай у чарговы раз перасякае польска-латвійскую мяжу і ў той жа дзень, праехаўшы праз памежны пункт у Валге, аказваецца ў Эстоніі.

Але на гэты раз доўга папрацаваць не ўдалося. У верасні 1939 года пачалася Другая сусветная вайна. Нямецкія войскі імкліва прасоўваліся на ўсход. 17 верасня 1939 года ў Заходнюю Беларусь увайшла Чырвоная Армія...

Пакідаючы ў красавіку 1939 года Польшчу, Мікалай Стадольнік не мог ведаць, што вяртацца яму давядзецца ўжо ў іншую краіну. 6 лістапада 1939 года начальнік КПП у Бігосава, капітан НКУС Кашырын зрабіў запіс у пашпарце беларуса: «Прыбыў. Вяртаецца ў Заходнюю Беларусь». А незадоўга да гэтага ў консульскім аддзеле савецкага паўпрэдства ў Эстоніі ў пашпарт Стадольніка чыноўнік паставіў штамп «Вяртаецца на радзіму».

Цікава, што адчуваў Мікалай, калі перасякаў мяжу? Пра што думаў? Напэўна, пра тое, як сустрэне яго родная зямля. А між тым, радзіма была ўжо іншай. Не было ні «вуйта», які выпісваў пашпарт, ні пана, які жыў недалёка ад вёскі. Іх арыштавалі і вывезлі. У вёсцы арганізавалі калгас, і хутка Мікалай стаў называцца «калгаснікам».

А калі з рэпрадуктараў заспявалі: «Вставай, страна огромная», беларускі селянін пайшоў абараняць сваю Радзіму. У 1946 годзе чырвонаармеец Мікалай Стадольнік атрымаў медаль «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне». Потым было няпростае, але мірнае жыццё.

Вось некаторыя эпізоды гісторыі працоўнай міграцыі заходніх беларусаў у міжваенны час. Многія з польскіх грамадзян, назаўсёды пакінуўшы кантынент, пройдуць праз усе цяжкасці і стануць «амерыканцамі». Іншыя, паблукаўшы на чужыне, вырашаць вярнуцца, і апынуцца ў цэнтры самага жудаснага ў гісторыі чалавецтва ўзброенага канфлікту. Пры ўсёй неадназначнасці палітыкі польскіх улад, яны давалі сваім грамадзянам шанец знайсці сябе ў іншых краінах, пры гэтым не кідалі сваіх суайчыннікаў на чужыне і імкнуліся рэгуляваць іх статус праз міжнародныя дамовы. Варта таксама памятаць, што пакуль заходнія беларусы «шукалі сябе за мяжой», іх усходнія браты спаўна спазналі бальшавіцкі рай, працуючы за «палачкі-працадні».



Польскі пашпарт для выезду ў Эстонію



Пячатка савецкага консула ў Эстоніі ў пашпарце Мікалая Стадольніка


На цырымоніі адкрыцця банка PKO SA у Буэнас-Айрэсе

▸ ГУЧНЫЯ ПРЭМ'ЕРЫ

# НОВАЕ АБЛІЧЧА ГУРТА «BLAGI MAT!!!»

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Склад новай фармацыі «BLAGI MAT!!!» сёння мінімалістычны: гэта Ігар Загумёнаў, якому дапамагае барабаншчык Аляксей Яфрэменка і выканаўца на народных духавых інструментах Яна Бабіцкая.**



Пачыналі ж музыканты свае музычныя эксперыменты з такіх экзатычных музычных напрамкаў, як electro punk, folk punk, grunge. Цяпер музыканты гавораць пра фолк-гранжавую падачу сваіх кампазіцый, заснаваных на народных мелодыях і вострых, а часам правакацыйных тэкстах панкаўскай скіраванасці. А таксама пра тое, што для праекта «BLAGI MAT!!!» надышоў час шчыльнага кантакту са слухачамі на канцэртах.

Каб пераканаць сваіх слухачоў, што «BLAGI MAT!!!» працуе менавіта ў такім фармаце і стылістычным накірунку, музыканты гурта не так даўно запрасілі слухачоў на свой сольны «жывы» канцэрт. Тым больш, што нагода для такіх канцэртаў самая што ні ёсць гуманістычная: не так даўно адзначаўся Сусветны дзень барацьбы са СНІДам. У гэты дзень, як і ў наступныя, многія рок-музыканты па ўсім свеце заклікаюць сваіх маладых прыхільнікаў усімі магчымымі сродкамі засцерагацца ад смяротнага захворвання, быць адказнымі за сваё жыццё і жыццё блізкіх яму людзей. Гэтай тэматыцы і былі прысвечаны «сольнік» гурта «BLAGI MAT!!!», як і інфармацыйныя матэрыялы па тэматыцы абароны ад СНІДу, якія распаўсюджваліся арганізатарамі канцэрта сярод моладзі.

Ігар Зазумёнаў выказаў шкадаванне з той нагоды, што музыканты ў гэты дзень мусяць выступаць у скарочаным складзе: Яна Бабіцкая чакае дзіця і не зможа выйсці на сцэну. І з гэтай прычыны яе замяніў удзельнік гурта «ZNICH», каларытны дудар Кастусь Трамбіцкі. Таму гурт «BLAGI MAT!!!» не згубіў сваёй фолкавай скіраванасці.

Трэба адзначыць, што на гэты канцэрт быў запрошаны не толькі адзін Кастусь Трамбіцкі. На сцэну клуба «RE:PUBLIC» па чарзе выходзілі саліст «IQ48» Алесь Ракавец (для сумеснага выканання кампазіцыі «Граем рок!»), а таксама Алег Хаменка, з якім гурт выканаў у folk-grunge стылістыцы хіт з рэпертуару гурта «Палац» «Канюшня».

Гэтая кампазіцыя, безумоўна, выклікала не толькі захапленне, але і незвычайную цікаўнасць. Колькі ўжо было створана кавераў на гэтую песню, але ў гурта «BLAGI MAT!!!» яна несла нейкія новыя стылістычныя адценні. Удзельнікаў гурта «Partyzone» — вакалістаў Ірыну Хмель і Дзяніса Вячэрскага — Ігар Загумёнаў запрасіў, каб упершыню выканаць кавер на знакаміты беларускі рок-хіт 90-х гадоў — песню А. Кулінковіча «TUT.BY», а таксама прапанаваць слухачам сваю версію кампазіцыі Л. Вольскага і А. Сушы «Я нарадзіўся тут». Яшчэ адна прэзентацыя гэтага канцэрта — фолк-панк-версія сусветнавядомага хіта бразільскага выканаўцы Мішэля Цело «Носа(м)» з сатырычным антыалкагольным тэкстам.

Увогуле ж канцэрт гурта «BLAGI MAT!!!» гэтым разам нагадваў тэатральную вечарыну кавераў, у ходзе якой былі скарыстаны ўсе магчымыя музычныя і сцэнічныя прыёмы. Тут прагучалі і па-панкаўску саркастычныя тэксты з іх першага студыйнага альбома («Тры расійскія літары», «Максім Панк»), панк-апрацоўкі некаторых хітоў гурта «Ляпіс Трубяцкой» (тут неацэнную дапамогу аказвалі выканаўцы на духавых інструментах С. Шымко і Н. Ліфанаў), спецыфічныя каверы на рок-кампазіцыі расійскай «Гражданской обороны», поп-песні «Землян» і Глюкозы. Шмат увагі ўзельнікамі гурта «BLAGI MAT!!!» надавалася любімаму гурту Ігара Загумёнава і класікам grunge — гурту «NIRVANA», многія песні якога ўпершыню гучалі па-беларуску. Усё гэта панкаўскае музычнае дзеянне суправаджалася бесперапынным перформансам у выкананні лідара гурта Ігара Загумёнага, да якога на сцэне праз некаторы час далучыліся артысткі творчага аб'яднання T(e)=Art.

У якасці падарунка слухачам на канцэрце гурта «BLAGI MAT!!!» прагучалі і некалькі нефарматных для такога панк-канцэрта твораў самога Ігара Загумёнава і гасцей канцэрта. Маю на ўвазе лірычную песню-прысвячэнне «Роднай зямлі», а таксама знакаміты хіт гурта «Partyzone» «Маё сэрца», які ў якасці падарунка слухачам быў выкананы дуэтам Ірына Хмель — Дзяніс Вячэрскі. Ну а скончылася шоў гурта «BLAGI MAT!!!» жартоўнай алюзіяй на песню гурта «Крама» «Гэй, там налівай!» — «Піся, гарэлка! Ясіся сала!», які выклікаў шквал апладысментаў слухачоў, завітаўшых у гэты дзень у клуб «RE:PUBLIC». Гэтымі каверамі, па словах Ігара Загумёнава, музыканты больш малодшай генерацыі аддавалі даніну павагі пачынальнікам беларускага року.

Яшчэ адным сюрпрызам гэтага канцэрта, прысвечанага Сусветнаму дню барацьбы са СНІДам, стаў сэт гурта «Голая манашка», які адбыўся па заканчэнні выступлення гурта «BLAGI MAT!!!». Гурт, лідарам якога доўгія гады з'яўляецца гітарыст і аўтар тэкстаў Фёдар Жывалеўскі, апошнім часам не вельмі часта можна ўбачыць і пачуць на «жывых» канцэртах. Музыканты больш засяродзіліся на такіх канцэртных формах, як акустычныя выступленні і «кватэрнікі». Гэтым разам «Голая манашка» грала ў «электрычным» складзе. Добрым падарункам слухачам сталі такія кампазіцыі «Голай манашкі», як «Акіян», «Сны», «Сука, вазьмі мяне!», беларускамоўныя каверы на песні «Гражданской обороны» «Куля-дура» і «NIRVANA» «Дзе спала ты?» і іншыя творы.

Пасля выканання гэтых песень склалася ўражанне, што творчасць каманды, якая адносіць сябе да анарха-панку, становіцца больш узважанай, эмацыйна насычанай і мудрэйшай. Так гэта ці не, пакажа новы альбом гурта «Голая манашка».

▸ КУДЫ ІДЗЕШ, МАЯ КРАІНА

# РЭАЛІЗМ УТЫЛІТАРЫЗМУ,

## альбо Ці можна напісаць п'есу па-беларуску

Віталь ВОРАНАЎ

**Калі празаікаў у нас хапае, а паэтаў можа нават трохі і зашмат, то таленавітых драматургаў можна палічыць на пальцах адной рукі. Універсальная прычына гэтага, верагодна, у тым, што драматургія, відаць, сапраўды самая складаная літаратурная форма.**



У адрозненні ад прозы, якая можа аддаваць перавагу чыстай нарацыі, ці паэзіі, у якой устанаўленне лірычнай асобы не мусіць мець вялікага інтэрпрэтацыйнага значэння, менавіта дзеятвор больш за ўсе іншыя літаратурныя формы прывязаны да дыялогу. З прычыны прывязкі да поўнай камунікацыйнай рэчаіснасці, рэалізм больш за ўсё ўласцівы якраз драматургіі. Калі ўлічыць, што ў Беларусі пераважае савецкае разуменне драматургіі, якая павінна пісацца выключна для пастаноўкі ў тэатры, а да таго ўзяць папраўку на факт панавання ў беларускім тэатры надзвычайнай закасцянеласці, то не дзіўна, што рэалізм нашай драматургіі становіцца яе натуральнай дамінантай. З гэтым звязаны шэраг праблемаў, але асноўная з іх — гэта аспект выбару мовы.

Некаторыя беларускія драматургі, а ў яшчэ большай ступені сцэнарысты, тым ці іншым чынам агучвалі думку, што напісаць п'есу ці зняць фільм пра наш час цалкам на беларускай мове папросту немагчыма. Маўляў, правілы рэалізму гэтага не дазваляюць, таму максімальна, што можна сабе дазволіць, гэта беларускамоўныя героі ў рускамоўнай рэчаіснасці — то бок кожны герой размаўляе, як і ў жыцці. Калі ў беларускамоўных аўтараў такое размежаванне можа быць прапісана яшчэ даволі гарманічна, то ў рускамоўных беларуская мова часта выступае ў якасці нейкага фетышысцкага элементу. Прыкладам такога выкарыстання можа быць фільм Андрэя Курэйчыка: «Вышэй за неба».

Іншыя аўтары ідуць у адлюстраванні рэалізму яшчэ далей і засвойваюць «літаратурную» версію трасянкі. Трасянка ў літаратуры — гэта асобная тэма, але, да слова кажучы, сёння часта складана разабраць, у якім месцы заканчваецца трасянка героя, а ў якім пачынаецца мова аўтара. З прылады характарызацыі героя трасянка, на жаль, усё часцей пераўтвараецца ў інтэлектуальнае ляніўства і нямогласць.

Астатнія, нашмат больш прымальныя, варыянты выйсця са складанай сітуацыі — гэта ўцёкі да гістарычных, фантастычных і іншых, не звязаных са штодзённай рэчаіснасцю тэмаў. Аднак ці не ёсць наша праблема трохі надуманая? «Шляхціц Завальня», «Дзікае паляванне караля Стаха», «Чырвоны агат», «Сівая легенда» — творы беларускіх аўтараў, экранізаваныя ў савецкі час на рускай мове. Адразу насоўваецца пытанне — а дзе ж рэалізм? Калі аўтаматычна адкінуць аргумент пра беларускую мову арыгіналаў (за выняткам твора Яна Баршчэўскага), то чаму беларуская шляхта і сяляне, і нават настаўнік беларускай мовы ў «Чорным замку Альшанскім» усе спрэс размаўляюць на рускай мове?

А таму, што ў гэтым выпадку рэалізм саступае месца функцыяналізму з падвойным дном. З аднаго боку, гэтыя фільмы ствараліся для шырокага савецкага гледача, з другога — мелі задачу такога, часта недасфармаванага савецкага гледача ў Беларусі дафармаваць. Гэта ўжо рэалізм не апісальны, а калі хочаце — рэалізм прадпісальны. Чаму, калі ўзяць прыклад з гісторыі, царскі чыноўнік, улічваючы рэальнае моўнае становішча, не прыстасоўваўся да мовы большыні, а мэтанакіравана насаджваў мову кіруючай меншасці?

А вось таму, спадарства, што рэалізм — гэта не толькі прылада для адлюстравання рэчаіснасці, аднак да ўсяго яшчэ і прылада для яе фармавання! Адлюстроўваць можа і рамеснік, але толькі мастак здольны стварыць тое, чаго няма. На тое ён і творца, каб умець стварыць з нічога ці перайначыць ужо створанае. Так рабілі і Купала, і Колас, і Караткевіч. Кожная літаратурная мова — гэта таксама, трэба прыгадаць, у вялікай ступені твор мастацтва.

Кожны, вядома, песняром не стане. Той драматург, які не можа пісаць па-беларуску, хай піша па-руску, але пастаноўкі і фільмы, калі ён хоча лічыцца беларускім аўтарам, павінен рабіць у добрым перакладзе на беларускую мову. Усё ж права называцца беларускім аўтарам павінна да чагосьці абавязваць і ў наш глыбока рэалістычны час.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1276

Падпісана да друку 07.12.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.